© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 2 (1913) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 10 СТУДЗЕНЯ 1993 г. ЦАНА 2500 зл.

## ЯК СТАЦЬ БІЗНЕСМЕНАМ?

**ГУТАРКА З ПРЭЗАСАМ ФІРМЫ "АМЕГА" МІРАСЛАВАМ ЦЕЛУШЭЦКІМ.**

*- Кажуць, што сёння распачаць бізнес у Польшчы - гэта чыстае шаленства. А ты, Мірэк, на маё пытанне: "Ну як там бізнес?" - адказваеш заўсёды нязменна: "Добра, вельмі добра!" Ці сапраўды так ёсць, ці проста пераняў ты ад амерыканцаў іх манеру: мае быць "о'кей" і абавязковая ўсмешка задаволенасці на твары, бо інакш... бізнесу не будзе?*

- Калі гавару, што добра, значыць добра. У бізнесе ілюзіі не створыш.

*- У святле гэтых фактаў мяркую, што ты адкажаш на ўсе мае пытанні?*

- Хаця бізнес і палітыка не належаць да спраў лёгкіх і прыемных - паспрабую.

*- Мірэк, ты з'яўляешся адным з нямногіх бізнесменаў-беларусаў. Ці праўда, што бізнес можна рабіць толькі тады, калі чалавек устане раніцай, гляне ў люстэрка і сцвердзіць: "Я прыгожы! Я цудоўны і свет навокал таксама прыгожы і цудоўны!"? Такое ж самалюбаванне не характэрна беларусам...*

- Шчыра скажу: ніколі не правяраў гэтага. Трэба прызнаць, аднак, што патрэбна добрае самаадчуванне.

*- Чым займаецца фірма "Амега"?*

- Сядзіба нашай фірмы знаходзіцца ў Бельску-Падляшскім, а яе філіял - у Варшаве. Прыярытэтная для нас справа - гэта пастаўка збожжа на ўсходні рынак. Але наогул наша дзейнасць даволі шматгранная. Абутковая фабрыка ў Сямяцічах пашыла, напрыклад, па нашаму заказу 18000 пар абутку, які пайшоў на Урал. На сотні тон кансерваў далі заказ мясакамбінату ў Элку. Быдла скуплялі ў нашым рэгіёне. Гэта таксама для Расіі. Беласток шые жаночыя плашчы і курткі, якія пастаўляюцца ў Куйбышаў /Самару/.

На Беларусь, апрача іншых тавараў пастаўляем камп'ютэры, электронную тэхніку.

Што датычыцца гандлю з Захадам, дык у асноўным на заходніх біржах мы прадаем нафтапрадукты. Зараз падпісалі з амерыканцамі пагадненне на вялікую пастаўку збожжа па субсідыраваных цэнах, якое пойдзе ў Польшчу і Беларусь.

Мы працуем крыху больш года, а наш тавараабарот сістэматычна расце.

*- У гэтым моманце чытача зацікавіць напэўна, як жа стаць бізнесменам. Я чула, напрыклад, што патрэбныя тры элементы: школа, грошы, ну, і каб узважыць свае магчымасці...*

- І адвагу. Ваўкоў баяцца - у лес не хадзіць.

☞ Працяг на стар. 8



*Кусты ў белых вушанках.* **Фота Я. Целушэцкага**

## ЖЫЦЦЕ СВЯЦІЦЕЛЯ ВАСІЛІЯ ВЯЛІКАГА

Св. Васілій нарадзіўся ў 329 г. у Кесарыі Кападакійскай у Малой Азіі (сёння ў Турцыі). Бацькі яго, Васілій і св. Эмілія, так як і дзяды, былі хрысціянамі. Жылі яны ў сапраўднай хрысціянскай любві паводле евангельскіх запаведзей, перадаючы большасць сваёй маёмасці на патрэбы беднякоў. У іх было дзесяцера дзяцей — пяць дачок і пяць сыноў. Апрача св. Васілія яшчэ двух, так як і ён, у будучым сталі епіскапамі — св. Рыгор Ніскі (з Нісы) і св. Пётр Севасційскі.

У дзяцінстве св. Васілій быў слабенькім і хворым дзіцём. Аднойчы бацька, якіназіраў за смяротна хворым сынам, заснуў ля ложка і пачуў голас Госпада: „Сын твой жыве". З гэтай пары хвароба прапала. Неўзабаве сям'я перасялілася ў Понт, непадалёк Неакесарыі, галоўнага горада правінцыі, дзе жыла яго бабка, св. Макрына. Менавіта тут атрымоўвае ён ад сваіх блізкіх выхаванне ў хрысціянскім духу. Дасягнуўшы юнацкую сталасць, падаецца ён у падарожжа з мэтай папоўніць сваю адукацыю. У Афінах вывучае граматыку, рыторыку, астралогію, матэматыку, філасофію і медыцыну. Там пазнаёміўся са св. Рыгорам Багасловам, з якім дружыць да канца свайго жыцця. Пасля вяртання ў Кесарыю ён становіцца адвакатам. Аднак адчувае цягу к манаштаству. З гэтай мэтай неўзабаве падаецца ў Сірыю, Палесціну, каб спазнаць жыццё манахаў. Вярнуўшыся, ён пасяляецца ў пустыні, непадалёк Неакесарыі, дзе моліцца, посціць і вывучае Свяшчэннае Пісанне. У 364 г. становіцца свяшчэннікам, а ў 370 г. — епіскапам у Кесарыі Кападакійскай. Сваіх вернікаў вучыў жыць у сапраўднай хрысціянскай любві і сам даваў гэтаму прыклад. Быў „бацькам сірот, абаронцам удоў, багаццем беднякоў, суцяшыцелем хворых, паказальнікам для багатых, падтрымкай старасці, павучэннем маладосці і правілам манашаскіх вартасцяў". Кіруючыся міласэрнасцю, арганізаваў дамы апекі і прытулкі для бедных і бяздомных. Заступаўся за чысціню веры не толькі ў Кесарыі, але і на ўсім Усходзе, пішучы мноства павучэнняў, лістоў і кніг. Яго труду Царква, не толькі тая, якая яму непасрэдна падлягала, у многім абавязана ў барацьбе з арыянствам. Быў ён галоўным маральным правадыром усходняга епіскапства. У спадчыне пакінуў ён некалькі дзесяткаў павучэнняў на псальмы, стварэнне свету і іншыя здарэнні, 5 кніг супраць арыянству, звод правіл манашаскага жыцця і хрысціянскага жыцця для вернікаў, многія малітвы і Літургію (зараз служыцца яна 10 разоў у год, асабліва ў перыяд Вялікага посту). Ён першым устанавіў акрэсленне Святой Тройцы як „Адзіная Натура, Тры Іпастассі".

За заслугі для Царквы, за свае высокамаральнае і падзвіжніцкае жыццё назвалі яго Вялікім. Памёр ён у 379 годзе. Яго памяць ушаноўваем 14 студзеня (1.01. па ст. ст.) і 12 лютага (30.01 па ст. ст.) разам са св. Янам Златавустам і св. Рыгорам Багасловам, з якімі атрымаў ён званне „Вселенского Учителя".

**С. Н.**



## ПАСЛАННЕ

**ЯГО ВЫСОКАПРААСВЯШЧЭНСТВА ВЫСОКАПРААСВЯШЧЭННЕЙШАГА САВЫ АРХІЕПІСКАПА БЕЛАСТОЦКАГА І ГДАНЬСКАГА З НАГОДЫ НАРАДЖЭННЯ ХРЫСТОВАГА 1992 ГОДА**

**Глыбокашаноўнаму Духавенству,
Багалюбімаму Манаству
і Набожным Веруючым Дзецям
Беластоцка-Гданьскай Епархіі**

*У Нараджэнні Хрыста неба і зямля аб'ядноўваюцца. Сёння Бог на зямлю прыйшоў і род чалавечы ўзыходзіць на неба /стыхіра на Літыі свята/*

Святая Царква зноў урачыста святкуе Нараджэнне ў целе Госпада нашага Іісуса Хрыста.

Зноў жыватворчае святло Віфлеемскай Зоркі праменіць над светам.

Зноў Ангел праз нядрэмных пастыраў апавяшчае: "Не бойцеся: я дабравяшчаю вам вялікую радасць, што будзе ўсім людзям: бо сёння нарадзіўся вам Збавіцель, Ён - Хрыстос Гасподзь "/Л. 2, 10-11/.

Зноў бачым убогую Віфлеемскую пячору, дзе ў яслях ляжыць "Дзіцятка Малое Спрадвечны Бог".

Нямее язык і розум бянтэжыцца, калі бачыць "вялікую таямніцу святасці" /І Цім. 3,19/. "Слова сталася целам" /І. 1,14/. "Бог учалавечыўся, каб чалавек абагатварыўся" і гэта толькі па волі любові Божай, таму што "Бог - гэта любоў" /І. 1,14/.

Уцелясненне Бога Слова - гэта з аднаго боку звышкасмічная з'ява. Яна пераўзыходзіць любы чалавечы розум, і да сённяшняга дня мы не можам уявіць аб'яднанне чалавечай натуры з Боскасцю. Але, з другога боку, з моманту Нараджэння Хрыстовага пачалося новае летазлічэнне, якому падпарадкаваўся амаль увесь свет па сённяшні дзень.

Усё гэта дзеля нас! Усё гэта дзеля кожнага з нас! "Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але атрымаў жыццё вечнае". Таму ўсклікаем: "О, бяздонне багацця і мудрасці і ведання Божага!.. Бо хто ж спазнаў розум Госпадаў? Або хто быў дарадчыкам Яму?" /Рым. 11, 33-34/.

Дзівосныя і багатыя сваім зместам калядныя спевы даюць нам магчымасць уразумець "вялікую таямніцу святасці" з пункту гледжання хрысціянскіх догматаў; яны поўны глыбокага павучання, якое далучае нас да духовай радасці гэтай святой падзеі, што асвятляе нас надзеяй праўдзівага

☞ Працяг на стар. 2

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Мэты палякаў на Беларусі зусім зразумелыя. Сёньня Беларусь зьяўляецца незалежнай дзяржавай, але вельмі слабой. І як да кожнага слабога арганізму чапляюцца розныя хваробы, так яны чапляюцца і да сёньняшняй Беларусі. (...) Калі Беларусь ня будзе мець свайго сапраўднага ўраду, тады кожны небеларускі рух, кожная небеларуская арганізацыя з яе прэсай будуць пагражаць для нашай дзяржаўнасьці. Мы гэта бачым ня толькі з боку палякаў, але і расейцаў, і ўкраінцаў, ды нават літоўцы на эміграцыі праводзілі сваю дзяржаўную граніцу каля Наваградка.*

*(Голас Часу, Лёндан, студзень-люты 1993)*

Спадары афіцэры, супакойцеся. КДБ не пакіне беларускі народ у бядзе — хай толькі забярэ сваіх афіцэраў з усіх гэтых арганізацый, газетаў і рухаў, а ўсе яны ляснуць яшчэ хутчэй, чымсьці ўзніклі.

* * *

*Калі б спатрэбілася адным толькі словам выказаць глыбіню нацыянальнага заняпаду беларусаў, слова такое ёсць — „западно-руссізм". Азначэнне „беларускі" ў звязцы з ім парадаксальна адцяняе трагікамізм таго грамадскага і псіхічнага стану, пры якім вынішчэнне нацыянальнае тоеснасці народа адбываецца ад яго нага імя і нават вуснамі, рукамі ягоных гадаванцаў.*

*(Голас Радзімы, н-р 50)*

Што й казаць... Цяперашнія публікацыі „Голасу Радзімы", без сумнення ў патрыятычна-адраджэнскай плыні, парадаксальна адцяняюць трагікамізм таго грамадскага і псіхічнага стану некалькі гадоў назад, пры якім рэдакцыйны калектыў праводзіў тое ж вынішчэнне нацыянальнае тоеснасці сваімі вуснамі і рукамі ад імя савецкай беларускай радзімы.

* * *

*Pierwszy Zjazd Białorusinów z bliskiej zagranicy, na który przyjechali do Mińska przedstawiciele 3,5 mln diaspory białoruskiej z terytorium byłego ZSRR, uświadomił kilkuset delegatom, że białoruskie państwo, oprócz dobrych chęci i deklaracji, ma im niewiele do zaoferowania.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 300)*

Пра гэта, мабыць, дэлегаты ведалі і без з'езда.

* * *

*Czy rozwiązać Sejm?*

*(Polityka, nr 52)*

А навошта? — Без яго польскае тэлебачанне сталася б зусім занудлівым.

* * *

*Günter Grass, pisarz:*

*... Przed kilkoma tygodniami minister spraw wewnętrznych Niemiec podczas wizyty w Polsce stwierdził, że nie jest wystarczająco dobrze wyposażona służba graniczna na wschodniej granicy Polski. I zaoferował 5 milionów marek zachodnioniemieckich, żeby ją wyposażyć, żeby łapać tych, którzy chcą dalej przez wschodnią granicę wędrować potem na Zachód. A to jest interwencja w polską politykę, przykład jak jeden kraj może gospodarczo uzależniać inny kraj. I bardzo się zdumiałem, że w Polsce to przyjęto spokojnie...*

*(Polityka, nr 52)*

Мы не здзівіліся. Усё залежыць ад таго, з якога боку ўмешваюцца і за якую суму...

* * *

*Każdy z nas lubi się kochać, tylko nie każdy ma ku temu dobre warunki* — сказаў прэзідэнт Лех Валэнса.

*(Gazeta Wyborcza, nr 292)*

Дадумоўваемся, што прэзідэнт меў на ўвазе перш за ўсё *warunki mieszkaniowe.*

* * *

*... Anastazja P. preferowała raczej pozycje klasyczne, banalne i na grzbiecie. Nieśmiałe próby urozmaicania podejmowane przez samego wicemarszałka sejmu metodą „usta-usta i dwa razy w dziób" spotykały się z nieufnością Anastazji. Takim podejściem do sejmowego życia zaimponować mogła najwyżej b. towarzyszom z PZPR, którzy swe doświadczenia erotyczne zdobywali w b. ZSRR i to jako strona bierna. No, może jeszcze nieśmiałym chłopaczkom-liberałom w krótkich majtkach. A w to, że coś takiego jest hrabianką, mogli uwierzyć posłowie z PSL i były walterowiec Jacek Kuroń.*

*(...) Co zapamięta (czytelnik) po przeczytaniu pamiętnika Anastazji P.? Przede wszystkim ogólny nastrój: Sejm jest burdelem, jest knajpą, jest domem wariatów i wszystkim — tylko nie władzą. Marszałek Sejmu to niemal zboczeniec i gwałciciel. Dodatkowo jeszcze obłudnik... (...)*

*Bez względu na to, kto napisał pamiętnik Anastazji P. — jest to książka pisana w interesie lewicy postkomunistycznej...*

***(Gazeta Polska, pismo KPN, nr 26—27)***

Адчуваем у гэтым тэксце жаль, што Анастазія П. не ўдзяліла належнай увагі паслам з КПНу, ні ў сваім ложку, ні ў сваёй кніжцы.

## З мінулага тыдня

**Больш за 100 тысяч** салдат арміі Рэспублікі Беларусь прысягала 31 снежня мінулага года вернасць рэспубліцы. Прысягалі таксама пагранічныя войскі і КДБ.

**Больш за 34 мільёны чужаземцаў** прыехала ў Польшчу на працягу першых трох кварталаў мінулага года - на 41 працэнт больш, чым у 1991 г. У той жа перыяд за граніцу выехала 21 мільён польскіх грамадзян, на 7 мільёнаў больш у параўнанні з 1991 г. На ўсіх 176 кантрольна-прапускных пунктах мытнікі і пагранічнікі праверылі 111 мільёнаў чалавек - на 38 працэнтаў больш, чым у 1991 г. Сярод замежнікаў, якія перасяклі польскую граніцу найбольш было грамадзян Нямеччыны - амаль 22 мільёны, Чэха-Славакіі - 5,5 мільёна і былога СССР - 5,4 мільёна. Не дазволена ўехаць у Польшчу 42 тысячам чужаземцаў, у тым ліку 23 тысячам грамадзян былога СССР, 6 тысячам румынаў і 5 тысячам балгараў. Найчасцей прычынай гэтаму былі фальшывыя запрашэнні, адсутнасць грошай на пабыўку, а таксама разыходжанні паміж дэклараванай і сапраўднай мэтай прыезду. Непажаданымі асобамі ў Польшчы гранічныя службы палічылі 2 тысячы "турыстаў", прозвішчы якіх былі ўведзены ў спецыяльны спісак. 14 тысяч замежнікаў, якія не прытрымоўваліся польскіх законаў, атрымалі адміністрацыйную візу і загад пакінуць тэрыторыю Польшчы.

**Фірма "Składnica Księgarska"**, колішні манапаліст у галіне кнігагандлю, збанкрутавала. На складах гэтай фірмы ляжыць некалькі дзесяткаў мільёнаў кніжак, вартасцю ў 250 мільярдаў злотых, значная частака якіх прадстаўляе вялікую вартасць для нацыянальнай культуры. Аказваецца, што ліквідатару фірмы танней будзе здаць гэтыя кнігі на макулатуру, чым прадаваць іх. Сярод гэтай масы кніжак знаходзяцца, між іншым, польскія пераклады твораў Янкі Брыля, Васіля Быкава, Аляксандра Салжніцына, Лэсі Украінкі і многіх іншых. Зараз вядуцца пошукі такога вырашэння справы, каб пагадзіць эканоміку з інтарэсам польскай культуры.

**Прадстаўнік беларускай фірмы "Метраном"** ледзь не загінуў у сваёй машыне ў Варшаве, але на шчасце выратаваў яго ад смерці мароз. У ягоным "Фордзе-сера" застыў матор і вадзіцель папрасіў прахожага папхнуць машыну. Калі легкавік рвануў, з-пад яго выкацілася граната Ф-1, якая магнітам была прымацавана да бака з бензінам. Да загваздкі ўзрывацеля быў прывязаны шнурок. Аўтар замаху, сцвярджае паліцыя, лічыў, што падчас язды шнурок зачэпіцца за нейкі прадмет, выцягне загваздку і граната ўзарвецца.

**У Кузніцы-Беластоцкай** у адным з вагонаў цягніка Санкт-Пецярбург - Варшава мытнікі знайшлі ў тайніку дванаццаць каштоўных іконаў, а ў цягніку Берлін - Варшава - Санкт-Пецярбург знойдзена трыццаць два газавыя пісталеты.

## ПАПРАЎКА

У артыкуле "Нараджэнне Госпада нашага Ісуса Хрыста" /"Ніва" н-р 1 ад 3 студзеня 1993 г./ намі дапушчана была памылка. Даты ў дужках - 19 студзеня і 7 студзеня - пададзены па **новаму**, а не *старому*, як напісана, стылю.

За гэтую недарэчнасць аўтара і чытачоў перапрашаем.

**РЭДАКЦЫЯ**

Чытачам "Нівы" і сябрам рэдакцыі, якія даслалі нам святочныя і навагоднія пажаданні, шчыра дзякуем.

**РЭДАКЦЫЯ**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- ✓ Скандал з музычнымі інструментамі.
- ✓ Раскрадаюць лес у Дубічах-Царкоўных.
- ✓ Моц культуры пагранічча.
- ✓ Як савецкія вучоныя бальзаміравалі Леніна і ягоных верных вучняў.

## ПАСЛАННЕ

☛ *Працяг са стар. 1*

супакою і ласкі Божай, заклікаючай нас да таго, каб "мір Божы, да якога мы і пакліканы, панаваў у сэрцах нашых" /Кал. 3,15/.

Царква, у якой мы толькі і можам адчуць і перажыць гэтую цудоўную сутнасць свята, нясе і дабравесціць яе свету і ўсяму чалавецтву. Сёння падзеленаму, веруючы ва ўсемагутную нябесную дапамогу.

Няхай радасць ад Нараджэння Хрыстовага поўніць нашыя сэрцы і яднае ўсіх нас, а ў нашым чыстым сэрцы няхай займе пасад Гасподзь.

Сардэчна віншую Усіх - Духавенства, Манаства, Моладзь, Дзяцей і Усіх Вас, Браты і Сёстры, са святам Нараджэння Хрыстовага і ад душы зычу непахіснай надзеі ў 1993 годзе.

Божае Дзіцятка Хрыстос няхай захоўвае Усім моц сілаў і добрае здароўе "дзеля нашай пасняховасці і радасці ў веры" /Філіп. 1,25/ і ў карысць Святой Праваслаўнай Царквы.

Хрыстос Нараджаецца - Усхваляйце!

**Божай ласкай пакорлівы**
**✝ Сава**
**Архіепіскап**
**Беластоцкі і Гданьскі**

Беласток - Гданьск
Каляды 1992 года.

## ДЗІКІЯ З УСХОДУ

Міністэрства ўнутраных спраў падрыхтавала новы праект законаў аб гранічным руху з дзяржавамі былога СССР. Выразна відаць з яго, што Польшча хоча зачыніць сваю ўсходнюю мяжу.

Дзве прычыны гэтага ўрадавага кроку выдаюцца быць асабліва важнымі:

- унутраная - страх перад неабмежаваным прытокам былых грамадзян Імперыі, якія дэстабілізуюць грамадскае жыццё і з якімі не справяцца органы дзяржаўнай улады,

- і вонкавая - націск заходнеeўрапейскіх дзяржаў /у прыватнасці Нямеччыны/, каб як найдалей адсунуць ад сваіх межаў мільёны жадаючых туды трапіць.

Аднachасна Польшча хоча як мага шырэй адчыніць сваю заходнюю мяжу.

Пры тым усім, дэкларуе роўную трактоўку суседзяў, і тых з захаду, і тых з усходу. Фундаментам польскае замежнае палітыкі, якраз паводле дэкларацый, ёсць партнёрскія і сяброўскія стасункі з усімі суседзямі. Не трэба тут ніякага прарока, каб прыйсці да вываду, што такога ніколі не будзе. Бо і суседзі не аднолькава глядзяць на Польшчу. Калі для Беларусі, напрыклад, Польшча явіцца галоўным гандлёвым партнёрам, дык ужо для Нямеччыны хутчэй "выкідайлам" /Адам Кшаміньскі, "Polityka" ад 26.12.1992 г./ няпрошаных гасцей.

Дзіўную прыцягальную моц мае багацце. Усе хочуць з ім інтэгравацца. Ніхто не любіць бедных, брудных і хворых. Іншая справа - патрабаваць для іх роўных правоў, дэмакратыі і таму падобных даброт. Але, каб здалёк, каб не бачыць іх у сябе.

Я разумею страх Польшчы перад невядомым, якое чакае ўсю гэту Садружнасць Незалежных Дзяржаў і спробы засцерагчыся ад злога. Калі мераць палітычнымі, а не маральнымі меркамі, дык можна сказаць, што не будзе пэўна вялікай страты ад увядзення віз для казахаў, узбекаў і іншых экзатычных туркменаў.

Але Беларусь? Ці для інтарэсаў Польшчы яна менш важная за Літву? Тут зноў відаць усю непаслядоўнасць польскай усходняй палітыкі, як і тады, калі не маглі рашыцца, на каго рабіць стаўку, ці на новыя дзяржавы, якія з горам-бядою вылупліваліся з савецкага яйка, ці на стары СССР. Прэм'ер-міністр выказвае ў Менску занепакоенасць збліжэннем Беларусі з Расеяй, а зараз потым паяўляецца праект зачыніць для беларусаў мяжу.

А не прасцей і карысней /і то для абодвух бакоў/ было б узаемныя кантакты абаперці на спрактыкаваных ужо між суседзямі прынцыпах. Тым лягчэй гэта зрабіць, што Беларусь неўзабаве ўвядзе свае ўласныя пашпарты.

Трэба аднак, панове, на нешта рашыцца. Не можа доўга ж так быць, што хочацца і колецца.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# У ДАПАМОГУ БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

У першай палове 1992 г. Сусветны банк, у пагадненні з Генеральнай дырэкцыяй Дзяржаўных лясоў у Варшаве, паклаў пачатак стварэнню Фонду Белавежскай пушчы. Цэлае лета ішлі працы над распрацаваннем статута. У жніўні ў Польшчу прыязджаў у гэтай справе юрыст з Фонду на карысць дзікай звярыны (WWF), сп. Бары Спергель, які дапамог дапасаваць статут да патрабаванняў міжнароднага права, што дазволіць белавежскаму фонду атрымоўваць ахвяраванні з цэлага свету. І, вось, напрыканцы 1992 г. Фонд Белавежскай пушчы быў зарэгістраваны судом у Варшаве.

Мэтай Фонду ёсць накопліванне, інвесціраванне і выкарыстоўванне сродкаў для аховы відавой і генетычнай разнароднасці расліннага і жывёльнага светаў, а таксама іншых спецыфічных, натуральных і культурных прыкмет, характэрных Белавежскай пушчы і яе наваколлю, а таксама іншым падобным натуральным асяроддзям.

У асаблівасці Фонд мае дзейнічаць на карысць актыўнай аховы пушчы і выступаючых у ёй унікальных натуральных рэсурсаў, фармаваць ахоўныя, гаспадарчыя, навуковыя і выхаваўчыя функцыі, якія запэўняць захаванне і ўмацаванне Белавежскай пушчы як характэрнага ляснога масіву. Мае ён таксама супрацьдзейнічаць усім спробам паменшыць абшар і іншыя рэсурсы пушчы, намагацца зберагчы і ўзбагаціць біяразнароднасць расліннага і жывёльнага светаў, асабліва зубра, фармаваць акружэнне ляснога комплексу ў такі спосаб, каб элімінаваць усялякія пагрозы для яго існавання. Важнай справай з'яўляецца таксама неабходнасць аднаўлення чыстаты пушчанскіх водаў і супрацьдзеянне выкіданню ў атмасферу шкодных газаў і пылаў, а таксама іншым фактарам, якія паяўляюцца ў выніку гаспадарчай дзейнасці, з мэтай ліквідаваць іх некарыснае ўздзейванне на пушчу. Накалец Фонд мае стварыць дастасаваныя да асяроддзя ўмовы жыцця і працы мясцовага насельніцтва, з думкай, каб абмежаваць яго некарысны ўплыў на пушчанскую прыроду. Яго задачай з'яўляецца ўтрымоўванне ды фарміраванне пушчанскага характару пасяленняў, вёсак і гарадкоў, якія знаходзяцца ў самой Белавежскай пушчы і на яе акраінах, ахова і развіццё матэрыяльнай і духовай культур наваколля пушчы.

З сабраных сродкаў Фонд будзе фінансава ўспамагаць будову сучасных, бяспечных для натуральнага асяроддзя, ачыпляльных сістэмаў і ачышчальняў сцёкаў у Белавежы, Гайнаўцы і Нараўцы, а таксама будзе ўспамагаць даследаванні, патрэбныя мясцоваму насельніцтву, і якія будуць датычыць магчымасці і спосабаў выкарыстоўвання натуральных рэсурсаў, без шкоды для пушчы. У яго полі зроку знойдзецца і экалагічная сельскагаспадарчая прадукцыя вакол Белавежскай пушчы.

Даход Фонду будуць складаць даравальныя запісы і членскія ўзносы паасобных людзей, арганізацый і гаспадарчых установаў, а таксама субсідыі і датацыі, спадчыны і запісы ад установаў і людзей з-за граніцы. Фонд таксама разлічвае на ўплывы з навуковай, асветніцкай, выхаваўчай, культурнай і гаспадарчай дзейнасці, уплывы з арганізаваных збораў ахвяраванняў і публічных мерапрыемстваў, даходы з капіталаўкладанняў і нерухомых маёмасцяў.

Фонд будзе мог набываць нерухомыя маёмасці, весці навуковую, папулярнанавуковую, выхаваўчую, а таксама гаспадарчую дзейнасць, наладжваць навуковыя сімпозіумы, абучэнні і мерапрыемствы.

Органамі Фонду з'яўляюцца Рада і Праўленне. У склад Рады можа ўваходзіць 5—13 членаў, якіх назначае і адклікае Генеральны дырэктар Дзяржаўных лясоў. Членамі будуць прадстаўнікі тэрытарыяльных самаўрадаў навакольных гмін (50 прац. усяго складу), працаўнікі нацыянальных паркаў і дзяржаўных лясоў, а таксама дэлегаты ад арганізацыяў і ўстаноў, звязаных з дзейнасцю Фонду.

Адпаведным міністрам, з увагі на мэты Фонду, з'яўляецца міністр аховы асяроддзя, натуральных рэсурсаў і лясніцтва.

Нядаўна Сусветны банк абавязаўся пералічыць на рахунак Фонду Белавежскай пушчы 20 тысяч долараў. Не выключвае гэта і наступных узносаў. Дырэкцыя лясоў уплаціла 50 млн. зл. Чатыры пушчанскія гміны перададуць па 8 млн. зл.

Як дагэтуль найвялікшае зацікаўленне новымі магчымасцямі развіцця, якія стварае Фонд, праяўляе гміна Дубічы-Царкоўныя. Трэба спадзявацца, што і самаўрады гмінаў Белавежа, Гайнаўка і Нараўка, дарэчы — члены новастворанага Саюза гмін Белавежскай пушчы, скарыстаюцца, кожны на сваёй тэрыторыі, сродкамі Фонду.

ПЁТР БАЙКО

# ХТО АБАКРАЎ ЦЭРКВЫ?

У мінулым годзе на Гайнаўшчыне было шмат узломаў у цэрквы. Аб'ектам злачынных нападаў сталі цэрквы ў Дубінах, Кленіках, Козліках, Ласінцы і Вяліків Тыневічах. Згінулі старыя іконы, літургічныя прадметы - рэчы, якіх вартасць выходзіць па-за матэрыяльную сферу. Для вернікаў Праваслаўнай царквы ўкрадзеныя прадметы маюць таксама духоўную вартасць.

Сёння вядома, хто ўзламаўся ў царкву ў Дубінах. Аказаўся ім быць жыхар тае ж вёскі. Яго лёс вырашыць суд.

Напрыканцы мінулага года выдавалася, што паліцыя знайшла след. У Гайнаўцы быў затрыманы гандляр старынай, у якога, падчас вобыску, знайшлі царкоўныя прадметы. Сярод іх, аднак, не аказалася нічога з абрабаваных цэркваў.

Я гаварыў з настаяцелямі з Тыневіч - а. Уладзімірам Саўчуком і з Кленік - а. Аляксандрам Высоцкім ужо пасля таго, як ездзілі яны апазнаваць гэтыя прадметы. Мала таго, што не было сярод іх нічога з іхніх храмаў, то яшчэ ўсё паказанае - малой вартасці.

У канцы лістапада быў арыштаваны жыхар Ласінкі Аляксандр Ш. Паліцыя ў яго хаце зрабіла вобыск. Людзі пачалі яго арыштаванне спалучаць з узломамі ў цэрквы. Выдавалася - неўзабаве высветліцца таямніца гэтых крадзяжоў.

Але ў Раённай пракуратуры ў Гайнаўцы сказалі мне, што гэты чалавек быў затрыманы зусім па іншай прычыне. Ставіцца яму закід саўдзельніцтва ў рабунку крамы ў Курашаве. Мы здзіўляемся, на якой падставе людзі гэты арышт пачалі атаясамліваць са справай узломаў у цэрквы, - пачуў я ў пракуратуры.

Да сённяшняга дня не ведаем, хто абакраў цэрквы на Гайнаўшчыне. І наўрад, ці калі-небудзь даведаемся. Дасюль не былі знойдзены ніякія зрабаваныя прадметы. Ва ўсіх гэтых выпадках з-за недахопу доказаў пошукі былі спынены.

ак

# АБ ВАЎКУ ГУТАРКА

Ужо каля пяці гадоў у Белавежскай пушчы паляўнічыя не адстрэльваюць ваўкоў. Звязана гэта, між іншым, з арыгінальнымі, сучаснымі метадамі даследаванняў драпежнікаў, уведзенымі вучонымі-заолагамі з Лабараторыі млекакормячых ПАН у Белавежы.

— Праз гэты час, — гаворыць д-р Генрык Акарма, — воўк здолеў аднавіць сваю структуру, якая была раней разбурана. Зараз у Белавежскай пушчы маем дзве воўчыя сем'і. Адна займае паўночную частку ляснога комплексу, другая — паўднёвую. Абедзве сем'і налічваюць па 7 штук, значыць разам жыве ў пушчы 14 ваўкоў. Трэба тут дабавіць, што наогул паўночнаўсходняя частка Польшчы знаходзіцца на другім месцы, па Карпатах, калі гаварыць аб колькасці ваўкоў. Тое ж самае можна аднесці і да рысяў.

На думку д-ра Акармы, паляўнічыя не павінны лічыць ваўка сваім канкурэнтам. Хаця гэты драпежнік улетку і ўзіму корміцца перш за ўсё аленямі, то яго ўплыў на той жа від з'яўляецца нязначным. Ваўкі выбіраюць у першую чаргу тых аленяў, якія паляўнічым не падыходзяць. Цікава, што воўк абмінае дзікоў, асабліва зімою.

Д-р Акарма выдаў у 1992 г., за свой кошт (!), папулярна-навуковую манаграфію, прысвечаную ваўку. Яе зараз можна купіць у кнігарнях. Заахвочваю да гэтага перш за ўсё тых чытачоў, з якімі я раней вёў на старонках „Нівы" дыскусію на тэму сапраўднай ролі ваўка ў асяроддзі. Аўтар манаграфіі называе і тлумачыць усе міфы, якія стагоддзямі спадарожнічаюць гэтаму зверу.

ПЁТР БАЙКО

# ГМІННЫ ГАНДАЛЬ

У Нараўчанскай гміне працуюць 23 крамы з харчовымі прадуктамі і прамысловымі таварамі. Належаць яны да Гміннай спулдзельні „Сялянская самадапамога". Ад пару гадоў колькасць гандлёвых пунктаў ГСу не зменшылася.

Улетку мінулага года арганізоўвалі так званы абвозны гандаль дзеля забеспячэння харчовымі прадуктамі і ахаладжальнымі напіткамі турыстаў і курортнікаў, якія адпачывалі над Семяноўскім вадасховішчам.

Вышэйзгаданы Гмінны кааператыў мае пякарню, напіткавы завод і разлівачную, а таксама рэстаран „Чар пушчы" на 120 чалавек. З пякарні ў крамы возяць штодзень па тры тоны хлеба, хлебабулачных вырабаў і піражнага. Рэстаран таксама дае прадукцыю — дванаццаць тон гастранамічных вырабаў у год. Ахаладжальныя напіткі, якія выпускае завод нараўчанскага ГСу, возяць у суседнія гміны: Белавежскую і Нараўскую.

ГС вядзе паслуговыя майстэрні, між іншым, кавальска-слесарскую і шкляную. Ёсць дзе адрамантаваць тэлевізар, халадзільнік, пральную машыну, боты.

ЯНКА ДАРОЖНЫ

# ЛЕС ШУМІЦЬ

Лес не толькі таямнічы і прыгожы. Калі б не было лесу, не было б і нас. Лес прадукуе кісларод, не дапускае да эрозіі глебы, убірае ў сябе атрутныя рэчывы і газы. Лес таксама - багацце. А што заменіць скарбы, якія знаходзяцца ўнутры лесу - расліны і звярыны свет?

На жаль, чалавек - найгоршы вораг лесу. Нішчыць яго па-рознаму: высякае найлепшыя дрэвы, і хаця садзіць новыя, шмат часу міне, пакуль з пасадак вырастуць вялікія дрэвы, паляўнічыя і браканьеры забіваюць звяроў, неасцярожныя і бяздумныя людзі даводзяць да страшных пажараў, робяць з лесу сметнік...

У мяне 5 гектараў хваіны. Люблю я хадзіць у свой лес. Блізка ён вёскі. Каб у ім зрабіць парадак, мне хопіць часу да смерці; вырэзваю розныя сушкі і тыя дрэўцы, якія растуць надта блізка, перашкаджаючы сабе, і выкарыстоўваю іх на апал.

Восі хаджу я ў зімовы лес, слухаю яго шум. Хоць ён быццам і мёртвы - не чутна і не відна птушкі і звяра, але ён жыве.

МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК



# З ВАРШАВЫ

У IV-тым квартале 1992 г:

- Сабралася ініцыятыўная група, якая арганізуе клуб беларускіх бізнесменаў у Польшчы. Клубам зацікаўлены і беларускі бок. Прадбачваецца выезд у Менск дзеля наладжання супрацоўніцтва. Зацікаўленыя дзейнасцю клуба могуць пісаць на адрас: "Grupa inicjatywna" Warszawa - Poczta Główna, skr. poczt. 244.

- 29 кастрычніка 1992 г. аўтар зборніка "Цёплыя вечары..." Зеновіт Фэдэцкі спаткаўся з чытачамі. Пазнаёміў ён прысутных з генезісам зборніка, расказаў пра добразычлівасць беларускага насельніцтва, з якім яму прыйшлося жыць у маладосці і аб сваім захапленні мясцовым фальклорам вёскі Феліксова на Лідчыне.

- 6-га лістапада 1992 г. у клубе БГКТ адбылося спатканне з сакратаром Беларускай акадэміі навук Андрэем Ганчарэнкам - фізікам. Эканамічную і палітычную сітуацыю Беларусі акрэсліў ён як стабільную, незалежна ад матэрыяльных цяжкасцяў краіны. Урад рэспублікі, - сцвердзіў, - дбае пра развіццё навукі, фінансава падтрымоўвае навуковыя ўстановы і не абмяжоўвае магчымасцяў адукацыі моладзі.

Я.Ж.

Ліст у рэдакцыю

ДАРАГАЯ „НІВА",

усім раіш і памагаеш дык можа і нам нешта дапаможаш. У нашай вёсцы Хамантоўцы ёсць тэлефонная лінія, якая пераважна папсаваная і не надаецца да карыстання. Мы ўжо патрацілі надзею, што калі-небудзь хтосьці яе паладзіць. У вёсцы большасць жыхароў — гэта людзі старыя, хворыя і бяссільныя. Часамі трэба выклікаць лекара, і тады трэба ісці чатыры кіламетры ў суседнюю вёску Баброўнікі. Пакуль туды дойдзеш і пазвоніш, можа ўжо здарыцца трагедыя. Часам патрэбная помач і сярод ночы, у дождж і завейку, і што тады? Старому чалавеку трэба знайсці спачатку кагосьці, хто захоча падняцца ўначы і павалачыся гэтыя чатыры кіламетры. А калі здарыцца іншае няшчасце, напрыклад, пажар? Вёска згарыць, пакуль пажарнікі прыедуць.

Дарагая „Ніва" — просім, памажы адрамантаваць нам гэты тэлефон.

Усяго Вам найлепшага ў Новым годзе.

ЖЫХАРЫ ХАМАНТОЎЦАЎ

**Ад рэдакцыі:** Ведаем, што „Ніву" чытаюць райцы і войт гміны Гарадок. Падумайце, спадары, пра лёс людзей, якія Вам паверылі, аддаючы кіраванне гмінай у Вашы рукі. Тое, што пішуць жыхары Хамантоўцаў, гэта сапраўды для іх вялікая праблема.



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ДЗВЕ АЎТАКЕФАЛІІ

У 1917 г. упалі дзве апоры дзяржаўнага парадку ў Расіі — царскае адзінаўладства і аўтарытэт Царквы. Бальшавікі ліквідавалі амаль усіх непаслушных ім святароў, а цэрквы разбурылі або замянілі ў гаспадарчыя, музейныя ці турэмныя аб'екты.

На захадзе былой расейскай імперыі паўставала незалежная Польшча, на тэрыторыі якой палітычную ролю праваслаўя замяніў каталіцызм. У выніку вайны з Савецкай Расіяй палякі заваявалі заходнюю Беларусь і Украіну, дзе жыло звыш 4 мільёны праваслаўных. Яшчэ ў час польска-расейскай вайны Царква патраціла каля 500 святыняў. У большасці патрачаныя цэрквы былі раней уніяцкімі, але чамусьці дамагаўся іх для сябе Каталіцкі касцёл. Парадокс заключаўся ў тым, што пры дапамозе дзяржавы адбіраліся праваслаўным святыні нават у тых мясцовасцях, дзе не было іншых хрысціянскіх веравызнанняў і патэнцыяльных карыстальнікаў.

Усе епархіі на тэрыторыі II Рэчыпаспалітай юрыдычна падпарадкаваныя былі Маскоўскаму патрыярхату. Польскі ўрад лічыў такую сітуацыю ненармальнай і дамагаўся ад епіскапаў абвяшчэння аўтакефаліі, гэта значыць акту незалежнасці ад Расейскай царквы. Сярод епіскапаў знайшліся нават прыхільнікі гэтай ідэі. Падтрымоўваў яе мітрапаліт Юры (Ярашынскі), які ў гэтым напрамку супрацоўнічаў з уладамі. Мітрапаліт праўдападобна лічыў, што пагадненне паміж Царквой і дзяржавай паўстрымае г.зв. рэвіндыкацыю святыняў і маёмасці, якая пагражала існаванню царкоўнай арганізацыі.

Паводле кананічнага права аўтакефалія толькі тады стаецца фактам, калі яе блаславіць Маці-царква, што ў выпадку праваслаўя ў Польшчы абазначала неабходнасць згоды на незалежнасць з боку Маскоўскага патрыярхату. Але ў Маскве блаславенства такога ніхто не думаў даваць.

Сярод іерархаў у Польшчы не было ў гэтай справе аднадумства. Епіскап гродзенскі Уладзімір, віленскі — Элеўтэрый, наваградскі — Панцеляймон і бельскі — Сяргей былі рашуча супраць такой аўтакефаліі, якая не мела б блаславенства з боку Маскоўскага патрыярхату. Мітрапаліт Юры і епіскап Крамянецкі Дыянісій гатовыя былі шукаць дарогу да аўтакефаліі і без такой згоды.

Сярод святароў і манахаў было большае аднадумства — гэта значыць амаль усе былі супраць аўтакефаліі.

Неўзабаве епіскапы, якія адмовіліся супрацоўнічаць з уладамі, былі арыштаваны або выгнаны за межы дзяржавы. На іх месца, у сан іерархаў, былі пакліканы новыя духоўнікі, схільныя супрацоўнічаць з уладамі і мітрапалітам.

8 лютага 1923 г. мітрапаліт Юры быў застрэлены рэктарам Холмскай семінарыі архімандрытам Смарагдам, які лічыў яго здраднікам і вінаўнікам трагедыі праваслаўя ў II Рэчыпаспалітай.

Новы мітрапаліт Дыянісій (Валедынскі), падтрымоўваны ўладамі, прадаўжаў старанні давесці Царкву ў Польшчы да юрыдычнай незалежнасці ад Маскоўскага патрыярхату. Шукаліся розныя варыянты. Адным з іх было бласлаўленне аўтакефаліі Царквы ў Польшчы патрыярхам Канстанцінопаля. Яго згоду польскі ўрад купіў за 3 мільёны злотых.

17 лістапада 1924 г. у прысутнасці вайсковага аркестра, афіцэраў польскай арміі і ўраднікаў у Царкве Марыі Магдаліны ў Варшаве абвясцілі аўтакефалію Царквы ў Польшчы.

Паводле права была яна некананічнай.

Аказалася, што калі ідзе пра епіскапаў і святароў, урад раней ці пазней, такім ці іншым спосабам, мог пераканаць іх да супрацоўніцтва. З карэспандэнцыі і лістоў ад духоўнікаў, якія атрымоўвалі адміністрацыйныя, паліцыйныя ці нават вайсковыя ўстановы, відаць гатоўнасць і волю іх аўтараў служыць новай дзяржаве, часта супраць інтарэсаў вернікаў. З другога боку, у тайнай карэспандэнцыі, пісанай ураднікамі ці афіцэрамі, людзей, якіх афіцыйна яны хвалілі і якім прышпільвалі медалі называлі „хітрымі азіятамі" і „агентамі", „крывадушнікамі", „подлымі здраднікамі".

Чатыры мільёны праваслаўных, у большасці непрыхільных дзяржаве, у вачах чарговых урадаў прадстаўлялі патэнцыяльную небяспеку, асабліва калі за мяжой пражывала большасць іх суайчыннікаў. У такой сітуацыі ўлады Польшчы пачалі намаганні, каб пераўтварыць вернікаў гэтага веравызнання ў польскіх патрыётаў. Паланізацыя патрабавала падтрымкі з боку Царквы, якая для большасці беларусаў і ўкраінцаў была адзіным аўтарытэтам.

У Царкве дамінавала расейская мова і культура — чужая большасці вернікаў, але эмацыянальна вельмі блізкая ім. Трэба было стварыць новую адукацыйную сістэму для маладых святароў і цераз іх змяніць культурную сферу рэлігійнага жыцця. Улады выходзілі з такога прынцыпу: калі Царква карыстаецца адной, штучнай большасці вернікаў мовай, можа карыстацца і другой, штучнай таксама.

Змены гэтыя абазначалі ліквідацыю навучання беларускай мовы ў віленскай семінарыі, пашырэнне часу навучання польскай мовы, гісторыі і геаграфіі. Новаадкрытая Кафедра праваслаўнага багаслоўя на Варшаўскім універсітэце выхавала арганізатараў Аб'яднання праваслаўных палякаў. У канцы трыццатых гадоў, калі ішло новае шаленства разбурання цэркваў, „праваслаўныя палякі" задумоўваліся, як даказаць свой патрыятызм і здабыць новых прыхільнікаў. Гродзенскі епіскап Сава, які апекаваўся гэтым рухам, рашыўся нават стаць членам напалову фашысцкай арганізацыі Лагер нацыянальнага задзіночання (Obóz Zjednoczenia Narodowego).

У 1938 г. прэзідэнт І. Масціцкі падпісаў дэкрэт, які акрэсліў прынцыпы дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да Праваслаўнай царквы. Нічога ў царкоўнай арганізацыі ні ў яе дзейнасці не магло даканацца без дазволу ўраднікаў.

Вайна прынесла агромныя змены. Паўсталі новыя аўтакефальныя цэрквы — беларуская і ўкраінская, а Варшаўская мітраполія абмежавалася толькі да Генеральнага губернатарства, якою толькі фармальна кіраваў мітрапаліт Дыянісій.

*(працяг у наступным нумары)*

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**



# З ДРУКУ

## ВОТ ПАНЫ... А КТО МЫ?

*Не толькі мы чытаем і пішам пра тое, што робіцца на Беларусі. Аказваецца што там таксама з увагай прыглядаюцца да ўсяго, што робіцца ў нас, на Беласточчыне. Найбольш пра нас пішуць у беларускамоўнай прэсе, але паколькі там газеты выходзяць і на расейскай мове, на старонках друку можна знайсці таксама шмат аналітычных матэрыялаў пра нашае тут існаванне. Цікава, што аўтары артыкулаў, нягледзячы на інтэрпрэтацыю тэкстаў, ведаюць амаль дэталёва пра ўсе праблемы, з якімі мы змагаемся.*

*Ніжэй друкуем фрагмент артыкула са "Знамя юности", які паказвае, як бачаць нас у Менску.*

*Рэд.*

/.../ От белорусов, работавших в администрации, "народная власть" потребовала только хорошего владения государственным польским языком и лояльности к существующему режиму. Вчерашние селяне легко забыли про национальные интересы и принялись рьяно выполнять новые указы и постановления. Надо найти "космополитов" среди односельчан? А вот сосед до сих пор на мужицкой мове говорит. Так белостокские белорусы стали жертвой внезапно наступившей хорошей жизни. Понимали ли вновь испеченные паны, что, выполняя указы Москвы и Варшавы, они губили свой народ?

Правда, иногда политика коммунистической Варшавы в отношении национальных меньшинств менялась. Так, в 60-е годы, в связи с хрущевской оттепелью, разрешили открыть два лицея с "беларускай мовай навучання" /четыре часа в неделю/, с благословления ЦК ПОРП было создано "Беларускае грамадска-культурнае таварыства". /.../

В политических условиях 60-х годов БГКТ сыграло положительную роль в консолидации белорусского общества в Польше. Однако когда государственная политика к меншинствам изменилась, руками работников БГКТ, партия начала разваливать тое, что заботливо создавала. Деятели товарищества прежде всего как ставленники государства, а не белорусы, добиваются в то время ликвидации белорусских школ, коллективов. Мол, они ненужны, поскольку мешают в цивилизационном развитии Восточной Белосточчины.

К сожалению, история распорядилась так, что те послевоенные белорусы до сегодняшнего дня не вышли из своей роли и продолжают "мешать" процессу возрождения. Посмотреть бы на совсем недавнюю историю - не те же "паны- мужики" действуют в ней?

Все время БГКТ кое-как финансово связывало концы с концами, существуя на государственные дотацыи. С приходом к власти "Солидарности" и последующей хронической нехваткой денег в бюджете дотации сокращались. БГКТ теряло здания в различных городах Польши /не было денег на арендную плату/. В 1990 году правительство Тадеуша Мазовецкого выделило всем национальным меньшиствам Польши большую дотацию. Белорусы получили 4 миллиарда злотых /420 тысяч долларов/. Деньги, как единственное культурное товарищество, получило БГКТ. Было ясно, что это последний "подарок судьбы". Оставалось только разумно вложить деньги в дело, как, например, сделали словаки, купив здание в центре Кракова, или украинцы, вложившие дотацию в недвижимость Варшавы.

А что делает БГКТ? Покупает автобус, машину "полонез", ремонтирует здание правления в Белостоке, открывая там кофейню /при том, что здание - чужая собственность, а будут ли там пить кофе - большой вопрос/. Единственной разумной покупкой были компьютеры для издательской деятельности, да и то потому, что одним из их главных условий дотации ставилась организация издательской базы.

Потратив дотацию на "ляльки" - будто и не всему белорусскому населению Польши она предназначалась, - деятели БГКТ снова ходят по бизнесменам и обращаются к правительствам с просьбой дать денег на спасение... народа или себя лично.

**ГЛЕБ БАБКИН**
*"Знамя юности",*
*2 декабря 1992 г.*

# НЕ ДАПУСЦІ, БОЖА, ДУРНАТЫ!

Цярпець не магу выдумак, што гаспадар корміць усіх хлебам, а работнік дае тавары. Хай не корміць - хай не дае; пабачым, ці сам выжыве. У маю маладосць ніхто нікому не чыніў ласку, кожны рабіў тое, што мог або ўмеў. Вяртаецца той нармальны час і здаровы сэнс працы, такой, каб жыць і багацець. Калі ж не падабаецца пацець і варушыць мазгамі, дык шый сабе, браток, шырокую торбу і валачыся ў блізкі свет жабраваць. Не будзе ўжо камунізму, гэтай ідэалогіі вясковай басоты, якая гарантавала лайдаку такую самую буханку як і працаўніку. Чырваныкі таму і засмярдзелі за гарою, што прэміявалі дабрабытам гладкі язык, замест мазолістую далоню. Імітацыю прадукцыі. Папяровыя рэкорды.

Не прынятыя ў прыватныя фірмы, куды падзенуцца тыя неўдалоты? Таленавіцейшыя з іх паробяцца напарфумаванымі аферыстамі, а тупыя займуцца крадзежніцтвам, разбоем. Што тады чакае нямалую рэшту, якую пакуль што выратоўвае "куранёўка"? Ёсць дзеля гэтага радзіна - у аднаго фабрычная жонка са смургелямі, у другога старыя бацькі з рэнтаю, у трэцяга брат ці сястра ў нядурным замужжы. Не завагаецца асесці камусьці з іх на шыю /кавалер яшчэ і жоначку прывядзе на іхны стол/.

Прыблізны працэнт лайдацтва ў народзе датычыць штočацвертага сярод працаздольных. У заможных краінах, як Нямеччына, даюць ім сталае ўспамажэнне на ўзроўні сацыяльнага мінімума, каб, такім чынам, ахаваць грамадства ад выбрыкаў галоты. Але не ў нас.

Далейшую сітуацыю ў Польшчы, асабліва ў Беласточчыне, няцяжка прадбачыць. Нашы абадранцы тут рэвалюцыі не падымуць. Гэта факт, але акажацца настолькі многа іх, што аніякі чалавек з капіталам не рызыкне сюды. Не таму, што спаляць фабрычку... Збыту не мецьме, вось, у безграшовых ваколіцах. Камуністы не лічыліся былі з эканамічным рахункам, ставячы непатрэбныя фабрычыскі ў падбеластоцкім гуляйполі, а прадукцыю адвозячы дарагім транспартам на далёкі Шлёнск. Так цяпер ніхто не зробіць, калі ён не шалёны.

Беластоцкае ваяводства налічвае каля сямісот тысячаў жыхароў. Блізу палова іх жыве ў самім Беластоку. Такая перавага горада ёсць тыповая для моцна адсталых тэрыторыяў /сіндром Мексікі; хутка штотрэці мексіканец апыніцца ў сталіцы/. Ці можна не дапусціць да таго, каб кіт Беластока не засмактаў, бы тыя шпроты, усю другую палову насельніцтва? Адказваю: не можна. З часам глыне ўсё і ўсіх, і яшчэ выліжа берагі беларускай граніцы. Напрыклад, хто гэта калі чуў, каб лесарубамі ў Кнышынскай пушчы працавалі "мястовыя"... А ўжо працуюць. І няхай сам Лёнік Тарасэвіч падлічыць, колькі людзей застанецца жыць у ягоных Валілах праз гадоў, скажам, дзесяць. Бо ў Крынках маіх вядома: з трох тысячаў цяпер паменшае да трохсот усяго, малых і старых, што цалкам адпавядае функцыянальнасці далейшага існавання мястэчка.

Ну, а гэты самы Беласток? У яго, аднак, іншая песня будучыні. Як той камп'ютэр, зажыве на канцоўцы варшаўскай магістралі. Будучы напраўду патрэбным гаспадарцы краіны, няма ў ім праблемы прыдбаць грош у кішэню /у горшым выпадку стаўшы грузчыкам/. Спачуваю Гайнаўцы з Бельскам. Іхнае знікненне з мапы заўважылі б у Польшчы толькі ... картографы.

Паратунак магчымы, але дзеля гэтага патрэбна адкрытасць рынкаў у сумежнай Беларусі. У нас можа быць не горш, чым у Еўропе, у якой блізкасць суседняй дзяржавы стварае добры шанц крайняму рэгіёну /напрыклад, французкі Эльзас жыве з паўночнае Швейцарыі, пры тым настолькі прасцей, што тыя і тыя гавораць адной моваю, нямецкай/.

Таму стаўлю я пытанне: чаму беластоцкі рэгіён беларусаў меў бы прапасці ў гаспадарчым ценю ўсёеднай Рэспублікі Беларусь? Праўда, можа тое стацца, але толькі ў выпадку, калі верх возьме дрымучая дурната.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# АДКРЫЛІ ШКОЛУ

У 52 нумары "Нівы" за мінулы год Мікалай Ляшчынскі піша /"З гісторыі школьніцтва ў Орлі"/, што дзеці ў Орлі вучацца ў будынках, адзін з якіх быў пабудаваны ў 1863 годзе, а другі - у 1910. Здаецца, гэтыя аб'екты больш адпаведныя былі б пад музей, чымсьці школу. У якіх умовах даводзілася там вучыцца і працаваць, найлепш ведаюць вучні і настаўнікі. Нічога затым дзіўнага, што наладзілі яны так урачыстае адкрыццё новай школы.

Шлях да ўрачыстага дня - 17 снежня 1992 года - быў доўгі і нялёгкі. Напачатку, а было гэта ў 1984 годзе, узнік Грамадскі камітэт пабудовы школы. Яго старшынёю стаў тадышні дырэктар школы Анатоль Мартыновіч. Камітэт арганізаваў падтрымку для сваеі ідэі, вышукоўваў сродкі, каб распачаць будову. Самая пабудова пачалася ў 1986 г., а выканаўцам яе стала бельскае прадпрыемства "Polbud". Грошы на школу ахвяравалі, практычна, усе жыхары гміны. Спонсарамі сталі таксама мясцовыя прадпрыемствы, асабліва СКР і ГС. Можна сказаць, цэлая гміна была заангажаваная вельмі моцна. Дапамагала таксама Кураторыя асветы і выхавання ў Беластоку.

Хаця шэсць гадоў, гэта нямала, аднак, каб цалкам закончыць гэтую інвестыцыю, давядзецца яшчэ крыху пачакаць /і шмат папрацаваць/. Навонкі будынак ужо гатовы, калі не лічыць браку тынкоўкі, затое ў сярэдзіне яшчэ далёка не ўсё зроблена. Вучні і настаўнікі пакуль што будуць карыстацца толькі 11 дыдактычнымі заламі, а наступных 5 давядзецца яшчэ пачакаць. Таксама не гатовыя гімнастычная зала і кватэры для настаўнікаў.

Усё гэта не сапсавала аднак святочнага настрою падчас урачыстага адкрыцця школы. Тым больш, што такога школьнага аб'екта не пасароміўся б ніякі горад /гэтае меркаванне паўтаралася і ў афіцыяльных прамовах, і ў прыватных гутарках/. Сёння вучыцца тут каля 280 дзяцей. Можна было б змясціць іх яшчэ столькі і нават тады не было б цесна. Але, каб запоўніць да канца новую арлянскую школу, бадай, не назбіраецца дзяцей у цэлай гміне, не то што ў самой Орлі і некалькіх суседніх вёсках.



*Мастацкая частка для дзяцей была дзвюхмоўная, польска-беларуская.*



*Школу ў Орлі адкрываюць /злева/: дырэктар Яўгенія Васілюк, беластоцкі куратар Пётр Літэрмус і прадстаўнік Міністэрства нацыянальнай адукацыі Меланія Сабаньска-Бандарук.*

Чаму затым паставілі такі вялікі будынак? Калі запланавалі гэтую пабудову, усе лічылі, што Орля будзе развівацца. Людзі спадзяваліся, што на базе высокаякаснай тутэйшай гліны ўзнікне тут керамічны завод, або нешта падобнае. Нічога такога аднак не сталася. У Орлі не ўзнікла ніякая фабрыка, маладыя людзі адсюль выязджаюць, як і з іншых мясцовасцяў усходняй Беласточчыны. Дзяцей усё меншае. Але школа ёсць.

Войт Міхал Іванчук у афіцыяльнай прамове сказаў, што пачалі яе будаваць якраз у добры час. Ухапілі момант. Сёння нават марыць пра такую школу не маглі б. Падкрэсліў ён, пры тым усім, якую вялікую працу выканаў Анатоль Мартыновіч. Падзякаваў таксама свайму папярэдніку, тады яшчэ начальніку гміны Мікалаю Зіневічу і ранейшаму куратару асветы і выхавання ў Беластоку Эдварду Крыньскаму.

Войт гміны Орля побач з дырэктарам школы Яўгеніяй Васілюк былі гаспадарамі ўрачыстасці. Сярод гасцей былі прадстаўнікі грамадска-палітычных улад. Сімвалічную стужку перарэзалі прадстаўнік Міністэрства нацыянальнай адукацыі, спецыяліст па справах адукацыі нацыянальных меншасцяў Меланія Сабаньска-Бандарук і беластоцкі куратар Пётр Літэрмус.

Пані М. Сабаньска-Бандарук падкрэсліла, што новая школа ў Орлі павінна ў значнай ступені дапамагчы забяспечыць патрэбы навучання беларусаў у Польшчы. У школе ў Орлі, дарэчы, амаль 90 % вучняў ходзіць на ўрокі беларускай мовы. Таксама мастацкую праграму для гасцей і бацькоў падрыхтавалі дзеці на дзвюх мовах, польскай і беларускай.

Двухнацыянальны і двухканфесійны характар школы быў падкрэслены падчас высвячэння школы каталіцкімі і праваслаўным святарамі.

Урачыстасць закончылася пышным банкетам у велізарнай школьнай сталоўцы. Паколькі і мяне на яго запрасілі, хачу тут сардэчна падзякаваць гаспадарам. І пажадаць, каб пасля такога свята будні не аказаліся занадта цяжкімі. Каб не было ніякіх клопатаў з утрыманнем такога будынка, і каб яго пабудова як найхутчэй закончылася.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

P.S. На адкрыцці прысутнічаў прадстаўнік Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандр Сасновіч, але пра яго візіт я напішу асобна, праз тыдзень.

## АСВЕТА ПАТРАБУЕ РЭФОРМАЎ

17 снежня 1992 г. у Пачатковай школе н-р 3 у Бельску адбылася сустрэча галоўнага спецыяліста па справах адукацыі нацыянальных меншасцяў у Міністэрстве нацыянальнай адукацыі д-р Меланіі Сабаньскай-Бандарук з прадстаўнікамі Камісіі па справах рэформы беларускага школьніцтва, якую ўзначальвае дырэктар гэтай школы Васіль Ляшчынскі.

Камісія ўзнікла амаль два гады таму назад. Утварылі яе самі настаўнікі, па свёй жа ініцыятыве. Члены камісіі апрацоўваюць новыя праграмы навучання такіх прадметаў, як беларуская мова, гісторыя, геаграфія, музыка, пачатковае навучанне.

У сустрэчы, апрача дырэктара Ляшчынскага, прынялі ўдзел: методык навучання беларускай мовы візітатар Тамара Русачык і настаўнікі Ларыса Бурыла /пачатковае навучанне/, Юрка Басна /геаграфія/ і Андрэй Сцепанюк /беларуская мова/. Гаворка ішла пра сітуацыю школьніцтва сярод беларускай грамадскасці ў Польшчы ды пра патрэбы зменаў у ім. Асаблівую ўвагу прысутныя звярталі на ўвядзенне элементарных ведаў пра Беларусь у рамках іншых, галоўным чынам гуманітарных, прадметаў.

Пані М. Сабаньска-Бандарук сказала, што перш за ўсё трэба апрацаваць праграмныя мінімумы, на аснове якіх да 1994 года ўзнікнуць падрабязныя праграмы навучання. Так па беларускай мове, як і па іншых прадметах. Асноўны цяжар у выпрацаванні такіх праграм ускладаецца на настаўнікаў-практыкаў. У сваёй працы пані яны аднак выкарыстоўваць вынікі дзейнасці двухбаковай польска-беларускай падручнікавай камісіі. Міністэрства, са свайго боку, будзе кансультаваць гатовыя праграмы з Кафедрай беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

У Польшчы да 1994 года мае ажыццяўляцца комплексная асветная рэформа. Рэформу беларускага школьніцтва трэба дапасаваць да агульнакраёвых тэрмінаў. Ёсць яшчэ крыху часу, каб апрацаваць салідныя праграмы, на падставе якіх будуць ствараца новыя падручнікі.

Лёс школьніцтва нацыянальных меншасцяў у вялікай ступені будзе залежаць ад саміх меншасцяў. Сёння законы ў Польшчы на шмат дазваляюць. Іншая справа, ці ва ўсіх будуць магчымасці выкарыстаць іх.

22 сакавіка 1992 года міністр нацыянальнай адукацыі выдаў распараджэнне, паводле якога нацыянальныя менашасці могуць адкрываць школы з роднай мовай навучання, а не толькі з дадатковым прадметам. Па-польску ў такіх школах ёсць абавязак выкладаць толькі польскую літаратуру і гісторыю Польшчы. Да гэтага распараджэння розныя нацыянальныя меншасці паставіліся па-рознаму. У славакаў і літоўцаў такія школы былі ўжо раней, украінцы пачалі арганізаваць іх цяпер, немцы толькі пачалі ўводзіць родную мову як дадатковы прадмет. Беларусы наогул ніяк не зарэагавалі на гэтае распараджэнне.

Сустрэча ў "тройцы" павінна стаць пачаткам пастаянных сувязяў паміж МЭНам і камісіяй В. Ляшчынскага. Удзельнікі яе дамаўляліся на наступныя тэрміны, калі будуць абмяркоўвацца ўжо выключна канкрэтныя пытанні.

**М.В.**

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

У спартыўным спаборніцтве падставовых школ у Беластоцкім ваяводстве - ў групе меншых школ - трэцяе месца і кубак куратара асветы і выхавання завявала Падставовая школа ў **Старым Ляўкове** /Нараўчанская гміна/ і сёмае месца - ПШ у **Нараўцы**. У Ляўкове заняткі па фізкультуры вядуць настаўнікі Андрэй Скепка і Юры Анісnúmевіч, а дырэктарам школы з'яўляецца Валянцін Барташук. Ляўкоўская школа - гэта варта дадаць - не мае гімнастычнай залы.

У ваяводскіх розыгрышах у настольным тэнісе чацвёртае месца завявалі дзяўчаты з Падставовай школы ў **Ласінцы** /Нараўская гміна/. У ёй урокі па фізкультуры вядзе настаўнік Яўген Кавальскі, а дырэктарам школы з'яўляецца Вера Дудзіч. У ласінскай школе таксама няма спартыўнай залы.

Поспехі спартсменаў з Ляўкова і Ласінкі адзначаем з асаблівым задавальненнем. Яны здабытым шляхам вялікай самаахвярнасці ў пераадоленні ўсіх цяжкасцей і перашкод вучнямі і настаўнікамі. Віншуем іх са спартыўнымі дасягненнямі і жадаем ім нястомнасці ў будучым!

**/ця/**

## ПЕРЫПЕТЫІ АЛІМПІЙЦА

Беларусь можа пахваліцца сваім алімпійскім чэмпіёнам па гімнастыцы. Калі Віталій Шчэрба вярнуўся з алімпіяды ў Барселоне ў свой родны Менск, быў вельмі шчаслівы — ён прывёз шэсць залатых медалёў. Дагэтуль ніводнаму гімнасту такое не ўдалося. Не скрываў ён, што атрымаў таксама 25 тысяч долараў і навейшую відэаапаратуру. Ён стаў адным з багацейшых людзей у Менску. Але шчасце доўга не трывае — з ягонай кватэры зладзеі ўсё забралі, асталіся толькі некаторыя медалі, прыхаваныя маткай. Ну і асталася слава. Пакрыўдзіўшыся на сваіх землякоў, чэмпіён выехаў за граніцу, каб прыняць удзел у турнэ гімнастычных зорак, якое праходзіла ў трыццаці амерыканскіх гарадах. Зарабіў ён там 50 тысяч долараў. Думаў наняцца да рэкламы нейкіх тавараў, але з-за незнаёмасці англійскай мовы аказаўся непрыдатным да гэтага. Другія зоркі спорту з Усходняй Еўропы таксама зарабляюць у Амерыцы; напрыклад нямецкая фігурыстка Катарына Віт рэкламуе дыетэтычную яду, а румынская гімнастка Надзя Каманэчы — жаночую бялізну. Канкрэтную прапанову атрымаў В. Шчэрба толькі з Індыі, дзе будзе рэкламаваць напітак „Coca-Cola". „Гаварылі мне, што я такі папулярны ў Індыі, што калі буду піць кока-колю, то і ўсе будуць піць яе", — сказаў чэмпіён амерыканскім журналістам. Яго дэвізам пасля алімпіяды стала: „Хачу зарабляць як найбольш грошай". Не ведаў ён тады яшчэ, што паміж „хачу", а „найбольш" ёсць вялікая розніца, нават для такога таленавітага гімнаста, як Віталій Шчэрба.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# НА БАЦЬКАЎШЧЫНУ!

Сход беларусаў блізкага замежжа пачынаўся раніцай у суботу, 19 снежня 1992 года. Але пачаткам свята мела быць вечарына ў Доме літаратара ў Менску, прысвечаная выпуску кніжкі "Самасей" Сакрата Яновіча. Так было надрукавана на адных запрашэннях /з Саюза пісьменнікаў/, а на іншых - у праграме Сходу - гэта мела быць сустрэча з літаратарамі з літаб'яднання "Белавежа". Да гэтай сустрэчы рыхтаваліся пару "белавежцаў" і вандроўны тэатр Янкі Морданя "Балаган". Моладзь /ад 17 да 20 гадоў/ выбрала тэксты "белавежцаў", якія найбольш запалі ў іх сэрцы, Мордань апрацаваў цікавую інсцэніроўку. "Балагану" заквотараванне і харчаванне гарантавала "Бацькаўшчына". Вядома, што кошт білетаў вялікі, і рашылі мы купіць іх як найтанней. Дапамог у гэтым дэпутат Вярхоўнага Савета Мікола Маркевіч, які запэўніў білеты за рублі на гомельскі цягнік. А быў жа аўтобус з БГКТ? Праўда, але кошт паездкі у Менск і назад - 200 тысяч злотых, а мастакі з "Балагана" - гэта вучні, не працуюць. Да таго аўтобус выехаў у пятніцу, і мог не даехаць на час /на вечарыну/ ў Менск. Другой з прычын, чаму "Балаган" і 2 асобы з "Белавежы" паехалі асобна было таксама тое, што не хацелі яны ехаць у групе, сярод якой заўсёды трапляюцца звычайныя гандляры /і мелі рацыю/. А грошай таксама ў БГКТ не папрасілі, бо БГКТ іх не мае - калі "Балаган" карыстаецца залай на Варшаўскай на рэпетыцыі, сказалі ім заплаціць за святло. Запрашэнне было з Саюза пісьменнікаў, і паехалі мы незалежна, і выступіць хацелі з такой праграмай, як хацелі.

Былі мы першымі дэлегатамі з Польшчы, якія пасяліліся ў "Беларусі". Пані з сервіс-бюро, з натуры не вельмі прыемная дама, пад канец размовы /гадзінка/ раптам загаварыла па-беларуску, калі аддавала мне нашы пашпарты. Я крышку адчула сябе лепш, пасля маёй сустрэчы на вячэры ў гатэлі "Менск" /дзе заўсёды падчас сесіі жывуць дэпутаты/. Афіцыянтка злавалася, калі мы захацелі гарбату: "Зачем мне эти ваши разговоры?!", а кухарка выйшла паслухаць беларускую мову! Села насупраць століка, дзе я сядзела з адным дэпутатам і яго бацькам-палешуком /на жаль, бацька дэпутата па-беларуску не размаўляе/, і азвалася:

- Вы, наверно, не депутаты?

- Мы не, але гэты вось, так.

- Я так и думала. Сколько я тут работаю, но ни одного слова по-белорусску ни один депутат тут не сказал.

А потым цётка ў брудным фартуху завялася:

- Ну что же они наделали, эти фронты! Развалили весь Союз! Голод, холод! Ни надежды, ни хлеба! Купи ты возьми машину, дачу! Задавила б голыми руками депутата от оппозиции, сидел бы он тут! Ух, как я их ненавижу! Жили бы мы с Россией, как сестра с сестрой родные, а то ...

- А вы што, дарабіліся дачы ці машыны за камунізму? А вось тут сядзіць апазіцыя, - я паказала на дэпутата. - Душыце яго голымі рукамі.

Цётка глянула на самавітую фігуру Міколы і замоўкла.

Дэпутат то чырванеў, то бялеў.

- Чым больш бі лакея ў морду, тым больш будзе табе руку лізаць. Вось гэта наш народ.

Я першы раз пачула родную мову ў Менску ад "нашага народа"! Сядзела ў зале чакання на вакзале. Нешта непрыемна запахла сметнікам. Перада мною стаяла нестарая яшчэ жанчына ў брудных анучках, з кулькамі, у якіх ляжалі сплеснелыя булкі, нейкія косткі, нешта загорнутае ў брудную паперу. Жанчына села побач мяне і пачала разгортваць свае скарбы. І загаварыла на маёй роднай мове:

- Кажа ён: ну бацька мой памёр, а што ж зробіш, гэта ж радзіцыя... Гэта ж ад таго такія захворванні, што народ нам мрэ... Вымра нам народ, ой вымра...

Тут падбег маладзенькі міліцыянер і павёў яе кудысьці. А яна адвярнулася і кінула мне:

- Вы на мяне пачакайце, я зараз вярнуся, не сумуйце!

Дзе ж тут будзеш сумаваць! Мы ж прыехалі на Бацькаўшчыну, каб пачуць і родную мову!

У Доме літаратара я даволі часта стараюся быць на розных вечарынах. Прыходзяць пастаянныя слухачы, якім, відна такія вечарыны даспадобы. Сустрэчы заўсёды ў адной, урачыстай канвенцыі. Выходзіць адзін дзядзька, запавядае іншага, потым выходзіць адзін або больш; хто стаіць, хто сядзіць. Некаторыя маюць даволі добры кантакт з залай. Потым пачынаецца мастацкая частка. Выходзяць, скажам, нейкія цымбалісткі з фальклорнай усмешкай, урачысты хор у пару радкоў, рэспубліканскі галоўны музыкант. Часам толькі паэт Сыс, якога натура не стрымлівае такой лажы, уняcе ў гэты камплект нешта новае, на жаль, ужо таксама нецікавае, бо паўторнае. З Сакратам - інакай. Ён, нават адзін як калок, на сцэне, патрапіць доўгія гадзіны трымаць увагу слухачоў. Але і Сакрат баіцца ўсякай афіцыйшчыны...

Ну і не меў яе. Да апошняй хвіліны сам Сакрат не ведаў, што будзе ў праграме вечара. Прыехаў з Існачы са спадарыняй Таняй. Вылавілі мы іх з дзяўчатамі з Бюро прапаганды ў гэтай вялізнай будыніне і павялі на каву. А я давай бегаць і шукаць людзей, адказных за вечарыну. Хуценька ўдакладнілі мы з мастаком, рэжысёрам і людзьмі з тэлебачання, як будзе выглядаць праграма. Для мяне было вельмі важным выступленне "Балагана". Леанід Галубовіч хутка "злапаў тэму", і запрацавала камера - перад вечарам запісаў ён размову з кіраўніком тэатра і артыстамі, пару слоў і я сказала пра "Белавежу" і іншыя справы. Абяцалі нам перазапісаць касету з вечарыны...

Зала поўная. Знаёмых шмат - уся літаратурная моладзь і майстры слова, мастакі, музыкі і просты беларускі "люд".

- Што ты так пераймаешся, больш чым мы! - супакойвае мяне Мордань. - Усё будзе добра. Дух у народзе добры!

І раптам... маем! Выносяць цымбалы на сцэну. Дзве штукі. І дзве студэнтачкі з кансерваторыі ў народным адзенні, у вяночках, з цярплівай фальклорнай усмешкай. Сакрат у першым радзе, Брыль, Панізнік, і іншыя вялікія. Сціскае пальцы, каб усё было рыхтык, намеснік Пісьмянкоў. Я ў чорнай доўгай спадніцы, як ніколі, урачыста.

І Эля Бэзюк з гітарай. І паэт Сыс, пурпуровы ад душанага смеху ці там ад чаго іншага. Потым паэт Сыс устаў, увайшоў на сцэну, укленчыў перад цымбаламі, падпёр шчаку далонямі, заслухаўся...

- Ах, малайчыначкі! Ах, як прыгожа... - і скінуў з павекі слязу.

Самыя вялікія зашумелі.

- Ну і не маеце афіцыйшчыны, Сакраце, - усміхнулася я.

- Забяры яго стуль! - звярнуўся да мяне намеснік.

- Хай сядзіць! Не чапайце яго, - спакойна папрасіў Сакрат.

- Я яго не забяру, а вазьму пайду на сцэну і яшчэ падскочу! - кажу я Пісьмянкову і думаю, што будзе тварыца потым у зале, калі пачнецца выступленне "Балагана".

З-за кулісы выбег сябра Сыса і сцягнуў яго са сцэны. Стройныя цымбалісткі з непахіснымі ўсмешкамі і сваімі цымбаламі выплылі, а на сцэну ўвайшоў Сакрат. За ім убег наш Фёдар, лёг на падлогу і накрыўся курткай, - ужо пачынаўся спектакль.

- Гэта што... пратэст? О-о-о-ох, а што гэта такое?! Ой, будзе сёння, будзе... Пазавіце міліцыю, ці што... - зашумела зала.

Сакрат пачаў заварожваць слухачоў, потым пайшоў да свайго століка на сцэне, куды саджаюць заслужаных і юбіляраў. Хіба трохі муляла Сакрата...

Пачаўся спектакль "Балагана". На сцэне ляжаць - снапы, пакуль бесформенныя істоты, без жыцця, забітыя людзі... Янка Мордань ходзіць сярод іх...

*Над пожняй счарнелай,*
*над з'езджаным полем,*
*Над каменем гострым, над*
*каменем гладкім...*
*Як цяжка таму, хто ведае болей,*
*Стаптанага жыта збіраці*
*астаткі...*

Я і не думала, што так будзе шчыміць у сэрцы, пачуўшы свой верш...

Гэтых дзяцей сабраў Янка. Іх бацькі, у большасці, не размаўляюць з імі па-беларуску. Яны шчаслівыя, - як кажа Анджэліна Харкевіч, адна з іх, - што пазнаюць роднае слова. Хочуць падзяліцца гэтай радасцю і гэтым болем.

*Хай крычыць, - ад крыку ступее*
*Іншы боль - боль самоты,*
*боль нажа спадчыннага..*

Уздымаюцца рукі, падымаецца нежатае, хоць скапычанае калоссе...

Гучаць вершы "белавежцаў" - Надзеі Артымовіч, Андрэя Сцепанюка, Міхася Шаховіча, Юркі Баены, Юркі Геніюша... Словы Сакрата Яновіча пра старонку родную. Гляджу на залу. Я ўпэўнена - сёння і заўсёды, яны чакалі гэтых дзетак з Беласточчыны; яны сёння павінны выступіць разам з Сакратам, які для мяне і для іх захаваў роднае слова ў нашай Радзіме.

Апладысментам няма канца. Сакрат дзякуе "Балагану" і пачынаецца размова Яновіча з госцьмі. Але, ці гэта не ён - тут госць? Не, ён тут на сцэне - гаспадар...

Ці выступіць "Балаган" яшчэ раз? Яны хочуць перадаць роднае слова і госцям сходу. Але праграма вельмі напружаная ў суботу: выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета РБ Станіслава Шушкевіча, намесніка старшыні Савета Міністраў М. Дземчука, прывітанне Васіля Быкава - прэзідэнта ЗБС "Бацькаўшчына", Зянона Пазняка - Старшыні Беларускага народнага фронту, даклад "Беларусы свету" доктара Леаніда Лыча, выступленне М. Слямнёва - старшыні камісіі па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета, віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук Радзіма Гарэцкага, выступленне ўдзельнікаў сходу з рэспублік былога СССР, Польшчы... Падчас перапынкаў кансультацыі з боку афіцыйных уладных структураў Рэспублікі Беларусь... І складанне кветак да помнікаў дзеячам беларускага Адраджэння. І канцэрт. Знайшлося пяць хвілін і для "Балагана". Настолькі захапіў, што Марысі Аліфер прапанавалі дзяржаўную стыпендыю ў Беларускую акадэмію мастацтваў. Наймалодшыя ўдзельнікі Сходу кажуць мне не менш узрушана:

- Ці ведаеш, як нас узмоцніла гэтая сустрэча?

На жаль, не на цэлую нядзелю застаюцца яны на сходзе - у панядзелак у іх пачынаюцца ўрокі. Прысутнічаюць яшчэ на выступленні міністра замежных спраў Пятра Краўчанкі. Дакументальны фільм пра беларусаў Беласточчыны "Васількі за Бугам" маюць надзею паглядзець дома /варта было б атрымаць копію і прадставіць героям фільма/.

У наступным нумары "Ніва" - больш пра праблемы якія краналіся на гэтым нацыянальным форуме.

**МІРА ЛУКША**






*МІРА ЛУКША*

**МЯСТЭЧКА**

Дзень белы у мястэчку шэрым.
Пусты аўтобус пыл глытае, -
Забраць нас хоча ў жвавы горад.
Пад грушай ссохлая валошка
У жыце чорным, пераспелым.
Камень у кветку прарастае
На градцы бурай, здзірванелай.
Герань вазон карэньчыкам кранае
На вокнах чыстых, у фіранках.
А дзе чарнее смерцю шыба,
Трупок раслінкі ў чыгуне.

* * *

стромкі ўзгорак
над садамі
паросли сухой травой
і казляцамі
роўна з маімі зрэнкамі
далёка відна было
зялёна-сівы Кішынэў

не забудзь мяне
не забудзь мяне
маё лета
апошняе лета дзяцінства

**ЗАМОВА**

- Сею, сею...
- Што ты сееш?
- Пярэпалахі!..
- То сей, каб не было!

Вазьмі ты, вецер ціхі,
ветравое ліха;
дзе ты майго любага
балезняю сустракаў,
што ж ты яму даў, -
каб назад забраў!

І ссылаю цябе, ляк:
забярыце ляк, бабы, у чапцы,
мужчыны ў шапкі,
дзеўкі ў косы,
хлопцы ў магеркі...

І нясіце...
на мхі, на балоты,
на стромкія горы,
дзе вецер не вее і людзі не ходзяць,
пеўні не пяюць, ваўкі не выюць.

Патуль хадзіла, пакуль ухадзіла,
угаварыла,
высылала з жыл,
з чуткіх вушэй,
з зоркіх вачэй,
з чырвонае крыві,
з жоўтае косці,
з буйнае галавы,
з шчырага сэрца,
з пругкага цельца...

Не бойся... Сею-сею...

З попелу быльнёгнага,
з вады свянцонай,
слёзкі калёнай
з відушчых вачэй,
крывінкі чырвонай.
З сэрца адданага,
збалелага.
Не бойся!

На чорны лес,
на зялёны лугі,
на сіне мора,
твой ляк, мой любы.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ЯК СТАЦЬ БІЗНЕСМЕНАМ?

☛ *Працяг са стар. 1*

*- Я думаю, што яшчэ трэба ўмець падбіраць адпаведных людзей да працы. У цябе да гэтага вялікі талент. Віцэ-прэзас - Валік Сельвясюк, гісторык мастацтва, які давучваўся ў трох амерыканскіх універсітэтах, Васіль Дамброўскі, былы дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя, добры германіст, а цяпер ты прыняў у сваю фірму і Алеся Палескага, які нямала гадоў шліфаваў свае веды па камп'ютэрах у Канадзе.*

- Валік мае дасканалую падрыхтоўку і да бізнесу. Хай нікога не мыліць яго малады ўзрост! Васіль Дамброўскі ажыццяўляе цяпер кантакты з нямецкімі фірмамі - у Гановеры, Боне і Дзюсельдорфе. Алесь асвойвае новыя камп'ютэры, бо мы перайшлі цяпер на камп'ютэрную сістэму.

*- Ты ж таксама першыя крокі да свайго бізнесу ставіў у Амерыцы. Пяць гадоў салідна папрацаваў у драўніне, пачынаючы ад працы сталяра, а пасля заснаваўшы там фірму. Ці бізнесменам быць цікавей, чым сталярам?*

- Кожная прафесія мае свае добрыя моманты, а бізнес і трэба пачынаць якраз ад працы і грошай. Ну, і яшчэ трэба мець крыху шчасця. Але наогул трэба мець свядомасць, што да бізнесу неабходна падрыхтавацца.

*- А па людзях ходзіць апінія, што першы мільён долараў мусіць быць зароблены несумленна. Ці можна ў Польшчы зарабляць вялікія грошы, не парушаючы права?*

- Людзі кепска кажуць. Можна рабіць інтарэсы, не камбінуючы.

*- Ці не баіцеся ў сваёй працы канкурэнцыі?*

- Канкурэнцыя можа быць канструктыўная. Мы б хацелі, каб такіх фірм было як мага больш.

*- Хто навучыў цябе бізнесу? Ці гэта трэба проста мець у крыві?*

- Я займаўся бізнесам яшчэ перад ад'ездам у Амерыку. Апрача таго, у Амерыцы хадзіў я на выклады ў школу бізнесу. Наогул у Амерыцы я пазнаў тэорыю і практыку бізнесу.

*- Адным словам, прайшоў ужо немалую дарогу да сённяшняга статус-кво. Уяўляеш сабе, як зайздросціць вам моладзь, асабліва тая, якая сёння, скончыўшы школы, не мае працы. Падарожжы, сустрэчы з людзьмі і... грошы. Ці сапраўды бізнесмену жывецца так лёгка, як ім здаецца?*

- О! Чалавек увесь час жыве ў вялікім напружанні. Падарожжы могуць быць цікавыя толькі на пачатку. Але калі даводзіцца 1-2 дні ў месяц спаць у хаце, падарожжа траціць свой каларыт.

Вось цяпер маю графік на адзін месяц. Снедаю ў хаце ў Новым Беразове, а 10-ай гадзіне - мой самалёт у Франкфурт, там абедаю, дзве гадзіны маю на афармленне спраў, а 4-5-ай гадзіне самалёт назад у Варшаву /ляціць адну гадзіну/, а на вечар - дахаты.

Валік Сельвясюк у гэтым тыдні едзе ў Аўстрыю, Швейцарыю, у Брусель, Ратэрдам. На працягу тыдня давядзецца яму зрабіць некалькі тысяч кіламетраў. У гэтых службовых падарожжах прыемнага мала. Гэта перш за ўсё цяжкая праца.

*- Мірэк! Вы з Валікам апранаецеся цяпер вельмі элегантна. Значыць, праўду сказаў мне адзін з пачынаючых бізнесменаў з-за ўсходняй мяжы, што калі хочаш, каб цябе шанавалі, мусіш мець салідны абутак і гадзіннік добрай фірмы.*



- Праўда! Пана пазнаюць па халявах.

*- Кажуць, што на дзве рэчы чалавека наогул не хопіць: альбо ён зарабляе грошы, альбо іх выдае. Што ты думаеш рабіць, калі ўжо здабудзеш вялікія-вялікія грошы? Ці мяркуеш калісь адпачыць і пачаць выдаваць іх?*

- Пакуль што я на выдаванне не маю і, пэўна, доўга не буду мець. Раскруціць бізнес - двух-пяці гадоў не хопіць. Калі маем на ўвазе стабільнасць фірмы, дык мусяць на яе працаваць пакаленні. Усё гэта справа арганізацыі часу.

Зрэшты, пакуль што цешыць мяне, што фірма разбудоўваецца, што можам даць працу на фабрыках сотням людзей, а на вёсцы гаспадар мае рынак збыту.

Вялікі капітал мы ўкладаем у новую камп'ютэрную сістэму. І трэба прызнаць, што яна адна з найбольш сучасных на свеце.

*- Але пры ўсім гэтым ваша фірма з'яўляецца спонсарам многіх устаноў і арганізацый у нашым асяроддзі. Вы не пашкадавалі грошай ні Музею ў Гайнаўцы, ні БАСу, ні паліцыі ў Бельску, ні царкве і ні касцёлу, а таксама і многім іншым. "Ніва" ад пачатку была прыяцелем "Амегі" і давала выраз гэтаму на сваіх старонках. Ці наша рэдакцыя ў цяжкую хвіліну, якая ўжо, на жаль, настала, можа разлічваць на кліч вашага сэрца?*

- Будзем старацца памагаць па меры нашых магчымасцей.

*- Дзякую! І... трымаем "Амегу" за слова! Жадаем усяго найлепшага ў Новым годзе!*

Гутарыла **АДА ЧАЧУГА**

**P.S.** - *Калі мы сустрэліся ў Кліўлендзе, у штаце Агая, ты сказаў мне са смуткам у вачах: "У вас там дык прынамсі весела, а тут нават кніжак не чытаюць!" Ці цяпер, калі ты дома, маеш нарэшце час на кніжкі?*

- Маю надзею мець.

**А.Ч.**

# УСЁ ДОБРА

- Спадабаўся ён мне, - кажа Крыся, - і я рашыла з ім пакахацца. Ну, проста так! Бывае ж так: спадабаецца, то і не думаеш, каб адразу пабірацца, а як што выйдзе, то падаваць у суд на аліменты, ці як!

Часта прыязджаў ён да нас на забавы. Калі завёў мяне ў свой "фіят", усё было як трэба. Ну, я ведала толькі, што Янак ён, і ў якой вёсцы жыве.

Калі было ўжо відаць мой жывот, накінулася на мяне мая сястра:

- Ты што, цяжарная?!

- Ну і што з таго?

- А хто ж бацька твайго дзіцяці?

- А не твая гэта справа!

- Ты едзь да яго і скажы, што ў вас будзе дзіцё.

- Нікуды я не паеду і нічога не скажу.

- Калі не паедзеш, выганім цябе ў лес, гадаўка! - раскрычаўся бацька.

- Не думай, што будзем гадаваць твайго байструка! Вось нарабіла нам уцехі! Не хочаш ехаць у Есяноўку, будзеш жыць у зямлянцы!

Што было рабіць, паехалі мы ды майго каханага. Янак якраз вярнуўся з прысягі свайго сябра ў Варшаве, спаў. Пабегла яго маці будзіць. Як убачыў мяне, толькі вочы вылупіў.

- Тваё?! - паказала маці на мой жывот.

- Мусіць, так... - пазяхнуў Янак.

- Каб ты ўтрэскаўся, дурань! Да чаго ты дапусціў? Як жа вы станеце на шлюб?!

Лаялі нас бацькі, а мы маўчалі. Паснедалі, і бацькі пайшлі перагаварыць наконт нашага шлюбу. А мы пайшлі ў клуню. Было добра ўсё. Янак мне нічога не сказаў.

Усе ўрачыстасці адбыліся амаль разам. У адзін дзень вяселле і хрэсьбіны, а на наступны адпраўлялі мы Янка ў армію.

Пакуль муж вярнуўся, я нарадзіла яму другога сына. Пераехалі мы жыць у горад. Ну, жывем згодна. І яшчэ, вось, адно дзіцятка мець будзем...

**АЎРОРА**

## НА мяжы

### ЧАСТКА XXIV

## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Выказванні беларусаў аб капіталізме можна было б множыць у бесканечнасць. Беларусы любяць палітыкаваць, хаця ў адрозненне ад палякаў не пробуюць свайго тэарэтызавання перакоўваць у практыку. Наколькі мне вядома, не ангажуюцца яны ў страйкі, у маніфестацыі, у блакады дарог, што ў палякаў становіцца частай практыкай.

Генеральна трактуючы справу трэба сказаць, што большасць беларусаў не падтрымлівае тых перамен, якія наступаюць у нашай краіне. Многія з размоўцаў ужываюць слоў тыпу: „А я ўжо табе гаварыў дзесяць гадоў таму" або: „Я ўжо даўно ведаў, што так будзе", „То ж кожны дурань ведае, што там, дзе капіталіст пад сябе грабе, там бяда для людзей".

Размоўцы наогул адносяцца адмоўна да погляду, што патрэбен даўжэйшы час для таго, каб вольнарыначная перабудова дала карысныя вынікі для шырокіх колаў грамадскасці. Цікава тое, што амаль выключна мужчыны ахвотна і шырока выказваюцца аб характары наступаючых грамадскіх перамен. Жанчыны амаль што зусім не хочуць выказвацца, аднеквацца найчасцей прыдапамозе такіх слоў, як: „Што вы мяне пытаеце, вы ж лепш чым я ведаеце, як усё ёсць", „Што там гаварыць, жывецца ўсё горш і горш", „Напэўна гэта ўсё, што цяпер робіцца ёсць боскаю караю за тое, што людзі сталі распусныя і забылі Бога", „Пры Герэку то пажылі, як у раю і так добра ўжо ніколі не будзе", „Хай будзе што хочэ, каб толькі рэнтаў не забралі", „Мы старые крукі, то неяк дажывем, але маладых шкада", „Нашто пытаць, што мы думаем, вы ж знаеце, як мы тут галасавалі ў Сейм і на прэзідэнта, як галасавалі так і думаем", „Нашто здавалася б нішчыць тое, што было добрае і ўводзіць кепскае. А то ж нішчаць добрае і ўводзяць злое", „Ой, яшчэ будзе так, як было ў рэвалюцыю, што брат на брата ішоў, а бацька на сына. Як адурэе народ, то невядома што робіць", „Нахай будзе найгорш, каб толькі вайны не было, вайна найгоршая", „Мне здаецца так, што ўсе маладыя за граніцу паўцякаюць, а старыя паўміраюць і тут будзе пустыня", „Пры Герэку то ўсе добрэ жылі, а цяпер то толькі жулікам добра стала".

Як жанчыны, так і мужчыны наступаючыя сёння працэсы не атаясамліваюць з будовай або перабудовай, а толькі са знішчэннем. Вельмі часта ў іх выказваннях паяўляецца сцвярджэнне: „Збудаваць цяжка, а знішчыць лёгка". Бадай што найбольш людзей абурае тое, што газеты пішуць аб розных гаспадарчых афёрах, але няма вестак аб судовых працэсах, прыгаворах і прысудах. Амаль усе згодна сцвярджаюць, што няма судоў таму, што змоўленыя камбінатары і зладзеі павязаны з высокапастаўленымі дзяржаўнымі дзеячамі, якія баяцца, каб у часе судоў не былі названы іх прозвішчы. Размоўцы часта ўжываюць акрэсленні тыпу: "Палітыкі прыкрываюць зладзеяў, бо ад іх бралі і бяруць грошы". Час ад часу пападаліся мне сяляне, якія гаварылі, што трэба разагнаць Сейм і ўрад і аддаць усю ўладу ў рукі цвёрдага чалавека, „які навядзе ў канцы парадак". Калі я пытаў, які гэта парадак мае быць заведзены, некаторыя з размоўцаў адказвалі: „Вельмі проста — у лоб сукіных сыноў і ў яму" або „Калі б тысячу чалавек расстралялі, то рэшта баялася б абкрадаць людзей". Здараліся, праўда рэдка, і такія, якія лічылі, што павінен паявіцца „такі чалавек, як Гітлер; ён расправіўся б з гэтаю свалатою".

Аднак трэба сказаць і тое, што пападаліся мне размоўцы, якія гаварылі, што хаця жыццё і пагоршылася, але яшчэ вялікай бяды няма і жыць можна. Людзі гэтыя выказвалі аднак боязь, што жыццё напэўна пагоршыцца і стане падобным на тую бяду, якая была да вайны.

Цікава і тое, што ніводзін з маіх размоўцаў не прапанаваў такіх экстрэмальных крокаў, як дзяржаўная непаслухмянасць, неаплочванне падаткаў, супраціў, страйк, бунт. Многія затое гаварылі, што беларусаў у Польшчы жменька, што яны нічога не зробяць і што будзе ў краіне так, як схоча польскі ўрад. Некаторыя выказвалі думку аб тым, што польскі ўрад занадта паверыў Касцёлу і „Салідарнасці", але цяпер ужо наступае ў палякаў „апамянтанне".

Вялікая колькасць беларусаў, асабліва старэйшых, баіцца, што ў нас дзяржаўная маёмасць будзе перададзена заходнім капіталістам і што яны „задушаць як палякаў, так і беларусаў".

Агульны тон выказванняў і ацэнак мае наогул песімістычны характар. Па сутнасці не сустрэў я ніводнага чалавека (гэта не значыць, што такіх няма), які б безварункова падтрымліваў наступаючыя перамены і верыў бы, што палепшаць яны лёс простых людзей.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## З ВІЗІТАМ У ГРАБАЎЦЫ

Я думаю, што некаторыя з тых, хто ходзіць у празмерна вялікую гарадскую школу, з перапоўненымі класамі і калідорамі, хацелі б вучыцца ў Грабаўцы.

Грабавец ляжыць на ўзбярэжжыне Белавежскай пушчы, у гміне Дубічы-Царкоўныя. Хаця гэта вялікая вёска, аднак дзетак з кожным годам у ёй меншае. Цяпер ужо ледзь хапае, каб утрымоўваць там поўную васьмікласную школу. Сёння такая школа яшчэ ёсць. Вучыцца ў ёй усяго 39 дзетак, займаецца з імі 7 настаўнікаў. У такім невялікім калектыве не цяжка ўявіць сабе сямейную атмасферу. Усе ведаюць адзін аднаго. Настаўнікі могуць прысвяціць большую ўвагу кожнаму вучню, чымсці там, дзе мала менш дзяцей у адным класе.

Але і ў гэтай школе, як усюды, ёсць свае цяжкасці. Да такіх адмоўных бакоў трэба залічыць, безумоўна, спалучаныя класы. Побач сябе на ўроку сядзяць вучні з двух розных класаў і мусяць займацца дзвюма рознымі справамі. Гэта не так і лёгка. Асабліва для непаседаў і свавольнікаў.



*Вучні шостага і сёмага класаў з Грабаўца з дырэктарам школы, настаўніцай беларускай мовы Алінай Новік.*
**Фота М. Ваўранюка**

Я думаю, што ўсім чытачам "Зоркі" цікава было б даведацца, як з такой сістэмай працы даюць сабе рады і вучні, і настаўнікі. Ну, але пра гэта павінны ўжо напісаць самі школьнікі з Грабаўца. Калі самым быдзе крышку цяжкавата, напэўна дапаможа вам настаўніца.

Цікавае напэўна атрымалася б знаёмства між вучнямі школы ў Грабаўцы і якое-небудзь гарадское (можа, бельскай "тройкі"). Усё аднак у руках вас саміх. Калі хочаце, "Зорка" можа стаць пасрэднікам у наладжанні першых кантактаў. Пішыце нам.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## ДЗІЎНЫ ГОСЦЬ
### ШАТЛАНДСКАЯ КАЗКА

Аднойчы вечарам старая жанчына сядзела за прасніцамі. Сядзела яна, прала пражу і прагнула кампаніі.

Раптам расчыніліся дзверы, увайшлі дзве агромністыя ступні і селі ля каміна.

А старая сядзела, прала пражу і прагнула кампаніі.

Зноў адчынілася дзверы, увайшлі дзве маленькія ногі і ўсталі на агромністыя ступні.

А яна сядзела, прала пражу і прагнула кампаніі.

Адчыніліся дзверы, увайшлі два тоўстыя каленкі і селі на маленькія ногі.

А жанчына сядзела, прала пражу і прагнула кампаніі.

І зноў адчыніліся дзверы і ўвайшлі два танюсенькія бёдры і селі на тоўстыя каленкі.

А жанчына сядзела, прала пражу і прагнула кампаніі.

І зноў адчыніліся дзверы, увайшлі два вялікія клубы і селі на танюсенькія бёдры.

А старая сядзела, прала пражу і прагнула кампаніі.

Расчыніліся дзверы, увайшоў малюсенькі стан і сеў на вялізныя клубы.

А яна сядзела, прала пражу і прагнула кампаніі.

Адчыніліся дзверы, увайшлі шырокія-шырокія плечы і селі на малюсенькі стан.

А жанчына сядзела, прала пражу і прагнула кампаніі.

Дзверы адчыніліся, увайшлі дзве маленькія-маленькія рукі і селі на шырокія-шырокія плечы.

А яна сядзела, прала пражу і прагнула кампаніі.

Зноў адчыніліся дзверы, увайшлі дзве агромністыя далоні і селі на маленькія-маленькія рукі.

А старая сядзела, прала пражу і прагнула кампаніі.

Расчыніліся дзверы, увайшла тонкая-тонкая шыя і села на шырокія-шырокія плечы.

А яна сядзела, прала пражу і прагнула кампаніі.

Дзверы адчыніліся, увайшла вялікая-вялікая галава і села на тонкую-тонкую шыю.

- Чаму ў цябе такія шырачэзныя ступні? - спыталася старая.

- Таму што я шмат, вельмі шмат хадзіў, - адказаў хрыпаты голас.

- А чаму ў цябе такія маленькія ногі? - спыталася жанчына.

- Таму што я шмат працую і мала ем! - адказаў тонкі голас.

- А чаму ў цябе такія тоўстыя каленкі? - спыталася яна.

- Таму што я шмат малюся, - адказаў хрыпаты голас.

- А чаму ў цябе такія тонкія-тонкія бёдры? - спыталася папрадуха.

- Таму што я шмат працую і мала ем! - адказаў тонкі голас.

- А чаму ў цябе такія вялізныя клубы? - спыталася жанчына.

- Таму, што вельмі шмат сяджу, - адказаў хрыпаты голас.

- А чаму ў цябе такі танюткі-танюткі стан? - спыталася яна.

- Таму што шмат працую і мала ем, - адказаў тонкі голас.

- А чаму ў цябе такія шырачэзныя плечы? - спыталася старая.

- Таму што я нашу на іх мятлу, нашу мятлу, - адказаў хрыпаты голас.

- А чаму ў цябе такія маленькія-маленькія рукі? - спыталася яна.

- Таму што я шмат працую і мала ем! - адказаў тонкі голас.

- А чаму ў цябе такія вялікія далоні? - спыталася жанчына.

- Таму што малачу жалезным цэпам, малачу жалезным цэпам, - адказаў хрыпаты голас.

- А чаму ў цябе такая тонкая-тонкая шыя? - спыталася папрадуха.

- Таму што я шмат працую і мала ем, - адказаў тонкі голас.

- А чаму ў цябе такая вялікая-вялікая галава? - спыталася яна.

- Таму што я шмат ведаю, шмат ведаю, - адказаў хрыпаты голас.

- А чаго ты сюды прыйшоў? - спыталася старая.

- ПА ЦЯБЕ! ПА ЦЯБЕ! - зароў госць на два галасы і працягнуў да яе свае вялікія далоні.

Але старая не спалохалася. Яна схапіла кій і моцна выцяла ім госця. І раптам той пачаў знікаць. Спачатку галава, потым шыя, потым далоні, потым рукі, потым плечы, потым стан, клубы, бёдры, калені, ногі і нарэшце шырокія-шырокія ступні.

А старая ўсё сядзела, прала пражу і прагнула кампаніі.

Пераклаў
**АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ**



*Вершы Віктара Шведа*

### ВЕСЯЛОСЦЬ У ХАЦЕ

Весялосць у хаце,
Дзіўныя навіны,
Прасвятая Маці
Нарадзіла Сына.

Скіраваны Богам
Ён ляжыць на сене,
Стаўшыся залогам
Нашага збаўлення.

Усе беларусы
У айчынным краю
Госпада Ісуса
Песняй праслаўляюць.

Слаўся Ты нам вечна,
Божае Дзіцятка,
Мы Табе сардэчна
Спяваем калядкі.

### НАРАДЗІЎСЯ НАМ ХРЫСТОС

Усявышні нам рашэнне
Весткай радаснай прынёс,
Што для нашага збаўлення
Нарадзіўся нам Хрыстос.

Што ў Ягонай моцы Бога
Будзе кожнага з нас лёс,
Каб прыходзіць з дапамогай,
Нарадзіўся нам Хрыстос.

Нашы хай плывуць калядкі
Да самюсенькіх нябёс.
Славім Божае Дзіцятка:
Нарадзіўся нам Хрыстос.

Ад хаціны да хаціны,
Хоць і на дварэ мароз,
Богу аддаем павіннасць:
Нарадзіўся нам Хрыстос.

* * * * * * * * * * * *

### НАПЭЎНА, ЗАМАЛА

У сачыненні лянота Кандрат
Толькі адзін сказ напісаў няўдалы:
"Кошка нарадзіла двое кацянят".
Скажы, па-твойму, гэта не замала?

- І мне здаецца, мала, так сказаць,
Якраз да сачынення не хапіла.
Але ў мінулым годзе ажно пяць
Маленькіх коцікаў нам нарадзіла.

### МАТУЛЯ КОРМІЦЬ ЛЫЖКАЙ

Бабуля ўнука ў хаце
Убачыўшы пытае:
- Чым корміць цябе маці,
Так добра выглядаеш?

Адказвае бабулі
На запытанне Мішка:
- Мяне мая матуля
Заўсёды корміць лыжкай!

### ГОЛАСНА ІГРАЕ ВАНЯ

Суседку з-за сцяны пытае
На калідоры Ваня:
- Скажыце, вам перашкаджае
На піяніна гранне?

- Ды ты іграеш, мой сыночак,
Так голасна часамі...
- Тады скажыце проста ў вочы
Аб гэтым маёй маме.

### ШТО КУПІЦЬ НА ІМЯНІНЫ?

- Заўтра маем свята,
Твае імяніны.
Што табе, мой тата,
Я купіць павінен?

- У нас, дзякуй Богу,
Ты сынок харошы.
Не купляй нічога,
Я не маю грошай...



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# АДНОЙЧЫ...

Дарвін быў запрошаны на званы абед у сям'ю арыстакрата. Яго суседка, маладая прыгожая дама, жартаўліва сказала:

- Містэр Дарвін, ну як гэта - чалавек узяў пачатак ад малпы. Няўжо і я таксама?

- Вы - ад самай чароўнай, - адказаў вучоны.

***

Вынаходнік аўтамабільнай свечкі запальвання Карл Бош ніколі не клапаціўся пра свой выгляд. Аднойчы ён прыехаў на адпачынак да маці.

- Слухай, ты не прывёз фрак, а ў нас будуць візіты: усе хочуць бачыць свайго славутага земляка, - сказала маці, распакаваўшы яго рэчы.

- Я адпраўлю яго поштай!

Праз дзень прыйшла пасылка. У ёй была вакуумная помпа... загорнутая ў фрак.

***

- Дзе вы былі летам? - запыталіся неяк у Анатоля Франса.

- У Грэцыі.

- А вам няцяжка было з вашымі ведамі грэчаскай мовы?

- Мне?! Не. А вось грэкам, бадай, было цяжкавата.

***

На шахматным турніры ў Гаазе 84-гадовы нямецкі гросмайстар Мізэс выйграў у 85-гадовага галандца Ван Фарэста.

- Вось што значыць маладосць! - сказаў задаволены Мізэс.

***

Аднойчы кампазітар Расіні прысутнічаў на прэм'еры оперы, у якой спяваў выдатны тэнар Рубіні. Побач з Расіні ў ложы апынуўся чалавек, які ўвесь час фальшыва падпяваў артысту.

Расіні не вытрымаў і прамармытаў:

- Ну і жывёліна!

- Гэта вы пра мяне? - насцярожыўся сусед.

- Ды не, - супакоіў яго кампазітар. - Гэта я пра ёлупня Рубіні, які перашкаджае мне слухаць вас.

***

Нямецкі вучоны Пауль Эрліх, ведаючы свой недахоп - крайнюю рассеянасць, стаў пасылаць сам сабе паштоўкі з напамінам - што калі трэба зрабіць.

Атрымаўшы такую паштоўку, ён гаварыў калегам:

- Нехта піша, значыць, гэта работа сапраўды патрэбна. Усё набок - саджуся за яе!

***

Пісьменнік Роберт Льюіс Стывенсан, аўтар "Вострава скарбаў", шмат гадоў пражыў у Акіяніі і добра вывучыў тамашнія быт і норавы. Аднойчы ў Лондане ён пачуў, як маці крычыць з акна бацьку:

- Не бі нашага сына!

- Фу, як груба! - заўважыў пісьменнік. - На астравах Акіяніі сказалі б так: "Апусці твой дастойны рамень, твой гнеў пройдзе і біць наша цудоўна выхаванае дзіця патрэбы не будзе!"

***

Калі археолаг Шліман вярнуўся пасля раскопак Троі ў Германію, адна дама спытала яго:

- Гер Шліман, гэта праўда, што ва ўсіх жанчын у Грэцыі грэчаскія насы?

- Ва ўсякім выпадку я не чуў, каб туды ўвозілі насы з Англіі, - адказаў Шліман.

***

У прысутнасці Марка Твена зайшла гаворка пра лунацізм.

- Ці не ведаеце вы рэцэпта ад гэтай немачы? - спыталі пісьменніка.

Той замест адказу ўзяў аркуш паперы і напісаў: "Карабок канцылярскіх кнопак. Тры сталовыя лыжкі на ноч каля пасцелі".

## ФЕНОМЕН КРАШЭЎСКАГА

У гісторыі славянскай культуры ганаровае месца займае вядомы польскі пісьменнік Юзэф Крашэўскі, сын пружанскага харунжага з Гродзеншчыны. Зрэшты, маладыя гады будучага раманіста і вучонага прайшлі ў беларускай вёсцы Доўгае, каля Пружан, у маёнтку бабулі.

Гісторыя Беларусі, яе помнікі даўніны, замкі, а таксама князі, магнаты, люд увайшлі ў творчасць знакамітага раманіста. Калі б яго творы "Кароль у Нясвіжы", "Апошнія з слуцкіх князёў", "Пане Каханку", "Радзівіл у гасціне", "На Палессі" і іншыя перакладсі на беларускую мову, то яны арганічна ўпісаліся б у наш творчы набытак мінулага стагоддзя. Аўтар 223 раманаў і аповесцей быў заўзятым падарожнікам, што паўплывала на стварэнне цікавейшых падарожных нататак "Пінск і піншчына", "Успаміны Палесся, Валыні і Літвы", "Малюнкі з жыцця і падарожжаў", "Адзенне мяшчан і сялян з ваколіц Брэста, Кобрына і Пружан" і інш. Ёсць у яго "Барысаў", "Старажытная Літва. Яе гісторыя, законы, вера, мова, звычаі і песні..." Гэта бліжэй да навукі. І ўжо зусім па мерках і законах навукі ім напісана "Мастацтва ў славян, асабліва ў Польшчы і дахрысціянскай Літве", дзе ўпершыню аўтар паказаў на беларускіх матэрыялах археалогіі, што не было рэзкага скачка-пераходу з эпохі каменя ў эпоху бронзы, а з эпохі бронзы ў эпоху жалеза. Усё пераходзіла плаўна, паслядоўна.

Тым самым Крашэўскі не проста пераняў папулярную "тэорыю трох эпох" (каменя, бронзы, жалеза) дацкага археолага К. Томсена, але і пайшоў далей у сваіх вывадах, творча пераасэнсоўваючы здабыткі мясцовых даследчыкаў.

А яшчэ Крашэўскі маляваў беларускіх сялян, вясковыя пейзажы, помнікі. Сябраваў з В. Дуніным-Марцінкевічам, А. Кіркорам, Я. Чэчотам.

ГЕНАДЗЬ КАХАНОЎСКІ




*УЛАДЗІМІР ФЕДЗІНІШЫНЕЦ*

**СКОРАГАВОРКА**

З'еў баранчык
Мой абараначак,
Вавёрка - цукерку,
Кошка - кашку,
А качанятка - астаткі.

**ЖУК-ТАНК**

Так,
Так:
Жук -
Танк.
У атаку ідзе!
Але толькі гудзе
Не так,
Як
Танк.

## АДГАДАНКА:

Дапамажы птушачцы дабрацца да свайго гнязда.



# САМЫЯ, САМЫЯ...

КІТЫ - самыя вялізныя млекакормячыя з усіх жывёл, якія цяпер жывуць на Зямлі. Напрыклад, шырыня пашчы ў грэнландскага кіта перавышае чатыры метры. Але, нягледзячы на сваю масіўнасць, ён з'яўляецца выдатным плыўцом і нырцом. Прытым можа дасягаць глыбіні больш за тысячу метраў і там спаць, шчыльна заткнуўшы ноздры. Асабліва вялізны сіні кіт, або блювал. Сэрца яго - памерамі з вялікага каня, а мазгі важаць усяго шэсць - сем кілаграмаў.

***

НАЙБОЛЬШ буйныя на зямлі змеі (з сям'і грымучых) - так званыя алмазныя. Іх радзіма - Паўночная Амерыка. Некаторыя віды гэтых змей дасягаюць дзесяці метраў у даўжыню. Іх вельмі вострыя зубы могуць пракусіць самую тоўстую скуру, а яду ўтрымліваюць у пяць - дзесяць разоў больш, чым кобры.

***

САМАЯ рэдкая на свеце муха - эскул сінгулярыс, якую злавіў новазеландскі хлопчык. Пра гэта паведаміла прэса 1988 годзе. Да гэтага нікому не ўдавалася здабыць ніводнага экземпляра такой мухі з 1941 года.

Па памерах яна нагадвае матыльку. У даўжыню дасягае пяці сантыметраў. Мае вялікія чорныя крылы. Больш дакладных звестак пра жыццё гэтай мухі энтамолагі не маюць.

***

САМЫЯ буйныя на зямным шары чарвякі сустракаюцца ў Аўстраліі. Жывуць яны ў вільготнай глебе на берагах рэк. Калі гэтыя чарвякі перасоўваюцца пад зямлёй, то на паверхні чутны гукі ад іх руху. Таўшчыня такога чарвяка - з вялікі палец чалавека, а даўжыня дасягае трох метраў.

***

КАНАДСКА-КІТАЙСКАЯ экспедыцыя, якая праводзіла работы ў пустыні Джунгарскай раўніны, выявіла пакуль што самую вялікую з вядомых да гэтага часу жывёлін. Праўда, выкапнёвую. З зямлі дасталі добра захаваны чэрап і дзесятак пазванкоў. Па ацэнцы вучоных-палеантолагаў, яны належалі вялізнаму дагістарычнаму дыназаўру. Жывёліна гэта мела прыкладна трыццаць метраў даўжыні.

## ТАЙНА СТАРАЖЫТНЫХ ФАРБАЎ

Час не паўплываў на колеры фарбаў старажытных егіпцян. І праз чатыры тысячы гадоў яны захавалі свежасць і яркасць.

Французскія спецыялісты паставілі перад сабой мэту раскрыць іх тайну. Ад саркафага егіпецкай муміі, што захоўваецца ў адным з музеяў Грэнобля, быў узяты маленькі кавалачак сіняй фарбы і грунтоўна даследаваны. Вучоным удалося вызначыць яе хімічны састаў. Аказалася, што старажытныя егіпцяне выкарыстоўвалі для выраба сіняй фарбы белы пясок, вапну і малахіт. Яны добра ведалі, у якой прапорцыі змешваць кампаненты і пры якой тэмпературы працякае працэс акіслення.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

315326 Украина, Полтавская обл., г. Кременчуг, ул. Г. Бреста - 98, кв. 101, РОМА АНДРЕЙ (12 гадоў, хоча пазнаёміцца з равеснікамі).



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## ВАРТА ВЕДАЦЬ

**Руплівы**. Вытворнае ад дзеяслова *рупіць*, які з'яўляецца толькі ўсходнеславянскім. Найбольш пашыраны на Беларусі. Запазычана з літоўскай мовы, дзе *рупіціс* — клапаціцца.

**Дэфіцыт**. Слова агульнае для многіх моў. Сваё цяперашняе значэнне — перавышэнне расходаў над даходамі, недабор дзяржаўных сродкаў, недахоп чаго-небудзь — яно набыло ў час французскай рэвалюцыі 1789 года. Тады правячыя класы пры банкруцтве ўжылі незразумелае для народа лацінскае слова *дэфіцыт* — недахоп.

**Карандаш**. З цюркскіх моў: *кара* — чорны, *даш* — камень (чорны камень). Першым карандашом была палачка з вугалю, потым — з волава, са срэбра, золата, а з 1565 года — графіту. Побач са словам *карандаш* у беларускай мове ўжываецца яшчэ слова *аловак*, запазычанае з польскай мовы.

**Магазін**. Бярэ пачатак з арабскага *махзан* — склад, сховішча. У арабаў запазычылі яго італьянцы, а ад іх — французы. Потым праз нямецкую мову слова *магазін* прыйшло ў беларускую лексіку.

**Міліцыя**. Утворана ад лацінскага слова *мілес* — воін. У Рыме слова *міліцыя* азначала воінства, ваенную службу.

**Прывілея**. Запазычанне з польскай мовы *(пшывілей)*. Як паланізм сустракаецца ў пачатку XVIII ст. і ў рускай мове, але там шырэй пачало ўжывацца запазычанае з французскай мовы *привилегия*. У польскай і французскай — з латыні: *прывілегіум* ад *прывус* — асобны і *лекс* (родны склон — *легіс*) — закон.

**Трафей**. Вецер, які змяніў напрамак, у Грэцыі называлі *трапайя* (ад *трэпа* — паварочваць). Пераможаны вораг, уцякаючы і кідаючы маёмасць, зброю, „мяняў напрамак", таму захопленыя рэчы непрыяцеля сталі называць *трафеямі*.

**Урад**. Слова паходзіць ад старажытнарускага *уряд* — парадак. Рускае ўстарэлае *урядник*, той хто сочыць за парадкам. Корань у словах *урад*, *парадак* — *рад* (ад *ряд*).

**Урач**. Славянскага паходжання. Утворана ад дзеяслова *врати*, якое ў старажытныя часы ўжывалася ў значэнні: *гаварыць*. Першапачатковае значэнне яго: замоўшчык, чарадзей, той, хто лечыць замовамі, чарамі. Паступова набыло сучаснае значэнне.

**Хуліган**. Утворана ад прозвішча ірландскай сям'і *Хулігэн*, якая „праславілася" сваёй бязмежнай задзірыстасцю, частымі сваркамі.

**Цярновы вянок**. Гэта вянок, сплецены з цёрну — расліны, галінкі якой пакрыты вострымі калючкамі. Мастакі ў сваіх карцінах паказвалі Хрыста, між іншым, у цярновым вянку. Вянок гэты стаў эмблемай пакутніцтва.

**(а-цыя)**






*З РУСКАЙ КУХНІ*

### ПЕЧАНАЯ ГУСКА, ФАРШЫРАВАНАЯ КІСЛАЙ КАПУСТАЙ

Узяць маладую гуску, 250 г саланіны, 850 г кіслай капусты, 3 цыбуліны, 3 зубкі часнаку, 1 лыжку маярану, шклянку мяснога булёну, соль, перац.

Аскубаную і без вантробаў гуску памыць і асушыць сціркай. Адрэзаць шыю, лапы і крылы. Пасаліць зверху і ў сярэдзіне, нацерці перцам і маяранам. Так няхай гуска паляжыць гадзіну.

Цыбулю абабраць і запячы на працягу 15 мінут у духоўцы. Астудзіць і сцерці на тарцы. Часнок абабраць і расцерці з адной лыжачкай солі. 100 г саланіны нарэзаць дробна, рэшту — тоненькімі скрылёчкамі.

Капусту крыху выціснуць, нарэзаць драбней, заліць шклянкай кіпетню і закіпяціць пад накрыўкай. Варыць на моцным агні на працягу 2 мінут. Дадаць цыбулю, дробна нарэзаную саланіну і часнок, соль, перац. Перамяшаць і тушыць на малым агні каля гадзіны. Тады астудзіць капусту.

Гэтым фаршам напоўніць гуску, сшыць яе, аблажыць скрылёчкамі саланіны, уставіць брытфану ў гарачую духоўку, даліўшы некалькі лыжак булёну. На 10 мінут перад тым, як гуска будзе гатова, даліць рэшту булёну.

Падаваць гуску, паліўшы соусам.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ПАРНАСІК

### З НОВЫМ ГОДАМ

З Новым Годам весялімся,  
Роднай мовай даражымся.  
Беларускі люд!  
— Нас чакае труд.

Але аснаўное  
У тым мо дарагое;  
Мецьз таго карысць  
І прагрэсам жыць

Лёгка не прыходзіцца,  
Дрэннае не зводзіцца.  
Мы не „сходзім з лісты"  
Там, дзе атэісты.

Трэба нам змяніцца,  
У Бога ўкараніцца,  
Прыняць Яго ў сэрца:  
Во дзе наша месца!

Ён нам дасць любоў  
Да двароў, дамоў...  
Каб мы дружна жылі,  
Прыкладам усім былі:

Працы не цурацца,  
Мовы не чужацца,  
Мець маральнасць, гонар,  
Як жаданы донар.

На прызыў Айчыны  
Будзем — малайчыны;  
Беларускі люд  
— Нас чакае труд!

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## КАСЯК НА "Л" І "Н"




**Управа:** 1/ спосаб улажэння клетак у касяку, 2/ гістарычная хроніка, 3/ аднавіцель, вынаходнік, 4/ жыве ў Бейруце, 5/ мае рог на носе, 6/ гультай.

**Улева:** 7/ меладычны матыў, 8/ салодкі напітак з фруктовым сокам, 9/ шкодны ў тытуні, 10/ апарат для вызначэння месцазнаходжання аб'екта, 11/ стан духоўнай трывогі, 12/ мэбля для спання.

**ЯДАНЬ**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на касяк з 47 н-ра. **Управа:** вопыт, Ватыкан, верабей, выйгрыш, выварат, вагон. **Улева:** вораг, вымысел, вакацыі, Венгрыя, вырадак, вазон.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Галена Тапалянская** з Трасцянкі і **Лукаш Пацэвіч** з Беластока.




Астроне! Мне ў апошні час сняцца вельмі кепскія сны. Ведаю, што яны мусяць прадвяшчаць мне штосьці нядобрае, але ўсё ж такі я вырашыў запытацца яшчэ ў цябе.

Вельмі часта (ужо ў гэтым тыдні тры разы сніліся) у маіх снах паяўляюцца нейкія ложкі, раз засланыя, раз — не, з падушкамі і коўдрамі. Заўсёды ў гэты момант прысутны нехта з блізкіх мне нябожчыкаў — бацька, сват, цесць. У адным сне мой бацька клікаў маю жонку да сябе, але яна не пайшла. Вельмі баюся. Вечарам дык проста баюся класціся ў пасцель.

А яшчэ нядаўна мне прысніўся сон, быццам выйшаў я на двор у джынсах. Іду на працу, а тут раптам бачу, што на каленях у мяне вялізныя дзіркі. Мне было вельмі сорамна. Што ўсе гэтыя мае сны могуць абазначаць?

**ІГАР**

Дарагі Астроне! Мне прысніўся надта дзіўны сон. Быццам бы прыехала да мяне нейкая знаёмая з заграніцы. Здаецца, яна была з дзецьмі. Мы плаваем у вельмі прыгожым закутку. Вада сіняя, а ў вадзе птушкі. Адны — сядзяць на вадзе, другія — ляжаць, але не мёртвыя. Птушкі вельмі прыгожыя. Форма ў іх чаек, яны даволі вялікія, а колеры — як у каляровага папугая,вельмі прыгожыя. Што гэта можа быць? Ага, птушкі былі стабільныя, нерухомыя. Яны не ляталі.

**АГАТА**

**Ігар!** Твае сны сапраўды нядобрыя, абазначаюць небяспеку, хваробу. Можа, твая жонка хварэе? Добра, што яна ў сне не пайшла да нябожчыка, які яе клікаў, можа вылячыцца...

Другі твой сон абазначае нейкую страту, беднасць. Ой, гэтыя дзіркі на каленях...

**Агата!** Твой сон з гатунку добрых. Госць з іншай краіны, сіняя вада і птушкі. Усё сведчыла б аб перамене на лепшае, але радасць будзе, бадай, памяркоўнай, бо і птушкі не ляталі, а сядзелі ці ляжалі.

**АСТРОН**




### SZANOWNY PANIE REDAKTORZE!

Jestem zakonnikiem, Franciszkaninem, mieszkam obecnie w Katowicach. 12 lat wstecz prenumerowałem tygodnik "Niwa" w języku białoruskim. Po powrocie z Rzymu, chciałbym ponownie otrzymywać ten piękny tygodnik.

Jeżeli to możliwe, bardzo serdecznie proszę o przysłanie blankietu na opłacenie prenumeraty. Chciałbym prenumerować od Nowego 1993 roku.

Jeszcze jedno zapytanie, ale zarazem i prośba. Czy państwo posiadacie słownik polsko-białoruski? Będę niezmiernie wdzięczny za każdą informację lub za otrzymaną pozycję. Dziękuję.

Na zbliżające się Święta i Nowy Rok 1993, wszystkim przemiłym współpracownikom Redakcji Tygodnika "НІВА" na czele z Panem Redaktorem przesyłam najlepsze życzenia zdrowia, błogosławieństwa i wszelkiej pomyślności na co dzień w życiu.

Z należnym szacunkiem  
brat Bronisław Kawecki ofm.

**Ад рэдакцыі: Дзякуем брату Браніславу за калядныя і навагоднія пажаданні і інфармуем, што польска-беларускі слоўнік рыхтуецца нашым журналістам Янам Максімюком. Праўдападобна будзе ён надрукаваны ў 1993 г., пра што абавязкова паінфармуем у "Ніве".**

Ніва

**"Niwa"**  
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,  
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,  
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Мірaслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1993 r. upływa 20 lutego 1993 r.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. w I kwartale 1993 r. wraz z wysyłką wynosi 4000 zł., a kwartalnie - 52000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## МАКАТРАЗМЫ

**З ТАГО СВЕТУ**

І ляжыць дзядок. І не дрыгае.
Патойбаковы асвойвае аўрал.
- Раку не прудзі, раб!
/То Пятрук з Р/ай/ДАІ/. -
Цікуеш каго? - Рабыню Ізаўру...

**ГЕННАЯ ЦАЦА**

Ганяў яе па агародах
І макатранскі продак.

**СІДАР МАКАЦЁР**

## СМЕХАТЭРАПІЯ

**Па дырэктывах БНФ**

Паводле апошніх дырэктываў Беларускага народнага фронту прозвішча фізіка Ом рэкамендуецца вымаўляць як Ам.

**Твор Гайдара**

Гайдар нарэшце закончыў работу над аповесцю свайго знакамітага дзядулі. У новым варыянце яна мае назву "Краўчук і Краўгек".

**Аб перабудове**

Перабудова завершана і здадзена ў эксплуатацыю. Як звычайна, з недаробкамі.

**Што ствараецца ў нас?**

На Захадзе ідзе стварэнне Агульнаеўрапейскага дома, на Усходзе - Еўраазіяцкага дурдома.

**У арміі**

Украінскае камандаванне паведамляе, што будуе рэспубліканскую армію на новых прынцыпах - у ёй не будзе ніякай дзедаўшчыны, а толькі бацькіўшчына.

**Арыгінальнасць**

Пачаты выраб рускіх арыгінальных гумак, якія маюць смак і пах бліноў з ікрой.

**Сервіс у лазні**

Задручынская гарадская лазня пашырыла асартымент паслуг. Цяпер акрамя памыўкі і ўзважвання там прапануюць фатаграфаванне кліентаў.

**Новая аперацыя**

Інстытут прафесара Фёдарава асвоіў новую аперацыю. Для заможных кліентаў тут прапануюць аперацыю і лячэнне па прасвятленню сляпой кішкі.

**У дарвіністаў**

Дарвіністы атрымалі новыя доказы паходжання чалавека ад малпы, вывучаючы інтэнсіўны зваротны працэс, што зараз адбываецца ў СНД.

**Акадэмія пастанавіла**

Расійская акадэмія навук пастанавіла цяпер называць лямпачку Ільіча лямпачкай Эдысана.

**Эксперымент у тэатры**

Тэатр-студыя "Пошук" ажыццявіў смелую эксперыментальную пастаноўку: акцёры іграюць на сцэне апранутымі.

/*"Звязда"*/



# ЛЁНІКАВА БАЧАННЕ СВЕТУ




## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

Ідзе старэйшая жанчына з сумкай да аўтобуса. Тут падскочыла да яе двух маладых мужчын, памаглі ўнесці торбу, увайсці па ступеньках.

- Вось бачыце, якая ў нас цяпер моладзь, - сказала кабета суседцы. - А то мы ўсё на яе наракаем...

- А пабачце, ці ўсё ёсць у вашай сумцы, у кішэнях...

Памацала жанчына кішэнь, а там кашалька няма!

- Ратуйце, гвалт! Абакралі! Ах як мяне, старую, падвялі! Нават на білет не маю...

- Сядайце, я вас без білета завязу, - пацешыў шафёр.

* * *

- Панаязджала гэтых "рускіх"! Проста няма ад іх адбою! Тавары ў нашых крамах ляжаць, і ніхто іх браць не хоча! Прагнаць іх, то і гаспадарка наша звярнуцца з месца!

- А ты не ў рускіх куртку купіў? Зусім някепская.

- Ага, да таго і танная.

- А боты, таксама, італьянская, але ў "рускіх"?

- І сумка, скураная, файна пашытая.

- То чаму ты іх хочаш выганяць?

- А ў мяне свая крама. Стаю вось цалюткі дзень, і прадаць нічога не магу. Пакупнікі толькі глядзяць тавар, цану, і ідуць на базар!

**АЎРОРА**

## БЕЛАРУСКІЯ ЖАРТЫ

- Суседзе, ці добра б'е твая новая стрэльба?

- Вельмі добра, учора з паліцы звалілася і пяць гаршкоў пабіла.

* * *

- Ведаеш, Янка, я ўчора падстрэліў зайца на дзесяць кіламетраў...

- А я забіў у нядзелю зайца на цэлы пуд...

Першы паляўнічы пачухаў патыліцу:

- Шкада, што я першы пачаў размову.

* * *

- Ці бывае вам шкада забітых звяроў?

- Вельмі шкада, калі іх забіваю не я, а хтосьці іншы.

* * *

- Як прайшло паляванне?

- Упяцёх аднаго зайца падстрэлілі.

- І як вы яго дзялілі?

- А мы яго не знайшлі.

* * *

- Хадзем Пятро на рыбалку!

- Ды я ж не ўмею лавіць рыбу.

- А што там умець? Налівай ды віпівай.

* * *

Мужык кажа да жонкі: - Ведаеш, Тэкля, вельмі нешта добрае я сягонняшняй ноччу прысніў.

Жонка: - Я, пэўна і здагадалася. Праз сон ты крыкнуў: "Дай, Мойша, яшчэ кварту!"

* * *

- Ці праўда, што Бог забраў у цябе жонку ўжо трэцюю?

- Праўда, браце. А я ўзяў сабе чацвёртую. Бог бярэ - бяру і я!

* * *

Адзін шэры заяц, цішком пад самым носам варты, праскочыў праз граніцу ў Аўстрыю. Сеў, перавёў дух і аглядае новы край. Падскочылі да яго аўстрыяцкія зайцы.

- Чаго ты ўцёк са свайго краю? Тут, братка, такога бруха не загадуеш, як у вас. Тут скрозь платы, драты, скрозь акцыз і варта на нас.

- Бачыце, братцы, - кажа заяц, падняўшы вушы, - у нас выйшаў учора загад, каб падкаваць усіх вярблюдаў.

- Дык чаго ты, дурань, спужаўся, ты ж заяц, а не вярблюд!

- Добра вам гэта казаць, а ў нас зловяць, падкуюць, а тады ляпай падковамі па траве, пакуль давядзеш, што ты заяц, а не вярблюд.

* * *

- Чаму ты не арэш?

- Бо малы.

- А чаму штаны кароткія?

- Бо бацькавы.

/*"Чырвоная змена"*/



Мілае Сэрцайка! Ці паверыш ты мне, што можна быць багатай і нешчаслівай?! Калі выходзіла я замуж, нічога не прадвяшчала таго багацця. Мой муж быў скромным маладым чалавекам, які працаваў, як і ўсе, і меў звычайныя людскія мары. Мы кахалі адно другога, радзіліся нашы дзеткі. Першае нарадзілася яшчэ, калі жылі ў нанятым пакойчыку, двое наступных — ужо ў блёку, бо атрымалі кватэру.

Брат майго мужа працаваў у Амерыцы і запрапанаваў, што можа запрасіць і мужа ды дапамагчы яму там знайсці працу. Папрацуеш, заахвочваў ён яго, дык вернешся дахаты з тымі доларамі і будзеш ведаць, што жывеш.

Ну, і праўда. Тры гады мацавалася я адна з дзецьмі. Я ж працавала на фабрыцы, дык дапамагала мне цётка з вёскі, якую я ўзяла да сябе. Нейк пратрывала я гэты час.

Муж вярнуўся з грашыма. Яшчэ долар быў у вялікай цане. Адразу вырашылі, што будзем будаваць вілу. Удалося! Праўда, цягнулася гэта пяць гадоў, але дом выйшаў такі, што і знаёмыя, і незнаёмыя не маглі надзівіцца. Чатыры паверхі, мармуры, басейн, шыкоўная мэбля, агарод з алейкамі. Уся наша энергія ішла ў адным напрамку — каб наша жыццё стала прыгажэйшым. Пра сябе мы ва ўсім гэтым амаль забыліся.

Муж стаў хвараблівa ласы на грошы. Пачаў засноўваць нейкія фірмы, у якіх я мала разбіралася. Я меркавала, што найлепш было б мне на сваёй працы, а крыху муж падзарабіў, дык пабудаваліся — і годзе. Але муж на гэтыя справы глядзеў з тыповай пазіцыі амерыканскага бізнесмена, якому ўсё было мала.

Дайшло ўрэшце да таго, што мой муж пачаў мне выдзяляць грошы на жыццё, скупячы ўсё больш. Ледзь на яду хапае.

Я пачала бунтавацца, а ён робіць з мяне вар'ятку. Проста не ўяўляю, што ён хоча гэтым даказаць. Ну, зусім, як у бразільскім серыяле „У каменным крузе". Там таксама багаты зрабіў сваю жонку псіхічна хворай. А можа мой муж хоча пазбыцца мяне і ўзяць на ўсё гатовенькае маладзенькую жонку? Як ты думаеш, Сэрцайка?

Ужо дачка мая старэйшая пачынае апранаць мяне. Нядаўна дала мне мільён злотых на зімовыя боты. Ну, купіла я. Прынесла дахаты, палажыла. Думала, вечарам яшчэ раз памераю. Ды дзе там! Адчыняю каробку, гляджу — адзін бот ляжыць. А ён да мяне: „Я ж кажу, што вар'ятка, адзін бот купіла!". Я перавярнула ўсё ў хаце, усе чатыры паверхі. Ведаеш, Сэрцайка, дзе я той бот знайшла? У падвале, у шкафчыку. Ну, і ізноў яго рацыя: „Я ж казаў, што вар'ятка: адзін бот у спальні палажыла, а другі — у падвал занесла!"

Што рабіць, як жыць? Ї навошта было мне гэтае багацце? Пра каханне ці прынамсі нейкія сімпатычныя адносіны да мяне ён ужо зусім забыўся. Ніякіх пачуццяў, холад і абыякавасць, а нават жорсткасць да дзяцей. Часамі думаю, каб уцячы ад гэтага ўсяго, але куды?

**Зося**

Уцякаючы, толькі дапаможаш яму. Хаця дом і пабудаваны за „амерыканскія" грошы, то ён — ваша супольная ўласнасць. У тваёй сітуацыі, калі гэтаму дому і, практычна, уяўнаму багаццю ты прысвяціла сваё шчасце, не маеш права звальняць месца тут маладзенькай. Прынамсі нешта застанецца тваім дзецям. Раю табе звярнуцца да псіхолага ці псіхіятра і пагаварыць наконт тае „вар'яткі". Можа табе там параяць, як бараніцца перад такім чалавекам, як твой муж. Апісаны табой прыклад яскрава паказвае, як чалавек можа быць самотны ў палацы і як не заўсёды грошы прыносяць шчасце. Дом без цяпла — гэта толькі будынак, яго не ўспомняць цёплым словам вашы дзеці, хаця і быў там свой басейн, дзе можна было купацца.

**СЭРЦАЙКА**

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020